адна зямля




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

8 жніўня 2003 года

№ 32 (433)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну



### Успышка менінгіту?

**МАЛАДЗЕЧНА.** З пачатку чэрвеня ў супрацьтуберкулёзны дыспансер трапіў 21 чалавек з дыягназам серознага менінгіту. Сярод хворых ёсць дзеці і падлеткі. Па дадзеных на 6 жніўня, у дыспансеры было 12 пацыентаў рознага ўзросту. На мінулым тыдні сюды прыязджалі спецыялісты з Мінска, каб высветліць сітуацыю. Успышка гэта ці не, будзе вядома праз тыдзень-два. Магчымы сезонны пад'ём захворваемасці.

**Ірына РАБУШКА.**

### Зноў змянілі

**АСТРАВЕЦ.** З панядзелка загадчыкам аддзела інфармацыі райвыканкома назначаны Ігар Клімянок, які раней працаваў намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Гудагайскай школы. Былы загадчык аддзела інфармацыі Сяргей Шэін пайшоў на павышэнне.

**Ірына РАБУШКА.**

### Агратурызм у Камарове

**МЯДЗЕЛ.** У вёсцы Камарова аб'яднанне "Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю" правяло семінар "Агратурызм: магчымасці і перспектывы развіцця ў Беларусі". Да вяскоўцаў прыехалі старшыня праўлення грамадскага аб'яднання "Агра-і экатурызм" В. Кліцунова, іншыя дасведчаныя ў гэтай тэме людзі. Удзельнікі семінара склалі прыкладныя праграмы прыёму гасцей з Мінска і замежжа і абаранілі іх перад выкладчыкамі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Наваселле

**ВАЛОЖЫН.** Наваселле справіляе гэтымі днямі раённая бібліятэка, калектыў якой пераехаў разам з кніжным фондам у памяшканне былога універмага. На 1-м паверсе размясціліся абанецкая і чытальная залы. На 2-м — службовыя памяшканні, залы для дзелавых зносінаў і выставачная.

**Ірына РАБУШКА.**

### Лубін – на цукеркі

**СМАРГОНЬ.** Лубін, які вырошчваюць на палетках калгаса "Светлы шлях", прыйшоўся даспадобы немцам. Летась прадстаўнік Германіі па прозвішчы Штоц закупіў 15 тон першацвету гэтай расліны, сёлета плануе ўзяць удвая больш. На намеччыне расліну дабаўляюць у кандытарскія вырабы, у тым ліку і цукеркі.

**Тарэса КУМІШЧА.**



# З надзеяй на будучыню

**ВІЛЕЙКА. З трохсот чалавек, што некалі працавалі на Залескім шкляным заводзе, у штаце засталося чатырнаццаць. Астатняе працаздольнае насельніцтва жыве ў пастаяннай трывозе і не ведае, што будзе заўтра.**

Беды іх пачаліся паўтара года таму, акурат у гэты час завод закрылі на рэканструкцыю, і людзі, многія з якіх працавалі тут сем'ямі, засталіся без работы. Некаторыя былі ў трансе: як жыць, карміць дзяцей? Але большасць усё ж разумела, што такое рашэнне прадыктавала само жыццё (прадпрыемства знаходзілася на мяжы выжывання), і цярпліва чакала, калі яно зноў запрацуе.

А дзень запуску ўсё адкладваўся і адкладваўся. Расхваляваныя жыхары пасёлка Партызанскі патэлефанавалі падчас "Прамой лініі" прэзідэнту. Ім абяцалі падтрымку на дзяржаўным узроўні, але пытанне па-ранейшым застаецца адкрытым. Людзям кажуць, што змены прыйдуць, але ж жыць ім трэба ўжо сёння.



Надзея Сяляўка з пасёлка Партызанскі, што ў Вілейскім раёне, каб зарабіць на абноўкі да новага навучальнага года вымушана прадаваць на дарозе ягады.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

У пошуках работы многія мужчыны падаліся ў Расію; пазачынялі свае кватэры на замкі і паехалі ў белы свет, як у капейку, адзінокія людзі. Тыя ж, каго не пускаюць у далёкую дарогу дзеці, выжываюць за кошт уласнай гаспадаркі і лесу, у якім сёлета багата грыбоў і ягад. Яшчэ зацемна, абвесіўшыся вёдрамі і глячкамі, спяшаюцца жанчыны ў лес, каб назбіраць да абеду вядзерца-другое чарніц, якое можна прадаць на ажыўленай аўтатрасе. За тыя пяцьшэсць тысяч, вядома, не разбагацееш, але на хлеб і кілю цукру будзе.

Побач з бацькамі гандлююць дзеці. Прадаюць малако, тварог. Балюча сціснулася сэрца, калі адна з жыхарак пасёлка прызналася, што не заўсёды можа дазволіць свайму сыну з'есці лыжку смятаны, бо збірае яе і возіць на рынак у Маладзечна. Але ў хуткім часе можа не быць і "малочных" грошай. Ветэрынарная служба выявіла ў статку 25 лейкозных кароў. Ужываць такое малако нельга, скаціну ў абавязковым парадку трэба збываць. А за якія такія грошы купіць другую карову?

Малая надзея і на бульбу. Сёлетнія зацяжныя дажджы зрабілі сваю чорную справу: у некаторых другі хлеб вымак поўнасцю. Са страхам чакаюць зімы і таму, што ў многіх засталіся непагашанымі даўгі па кватэрплаце яшчэ за мінулы ацяпляльны сезон. Камунальнікі, у выпадку калі задоўжанасць не будзе пагашана, абяцаюць спыніць падачу цяпла ў кватэры. Людзі баяцца, адначасова сароmеюцца свайго такога становішча і ў той жа час ліквідаваць запазычанасць (у некаторых яна складае 300-400 тысяч) не могуць.

Найбольш шчаслівым чалавекам у Партызанскім лічыцца той, хто мае работу. Прапануўае яе пакуль што толькі суседні калгас, які знаходзіцца за 12 кіламетраў ад пасёлка. Хадзіць далёка, ездзіць няма магчымасці, бо з 1 чэрвеня аўтобус па маршруту Вілейка-Партызанскі ходзіць не кожны дзень, ды і заробкі там затрымліваюць на два-тры месяцы.

Трапіўшы ў кола невырашальных праблем, жыхары пасёлка рэдка сціраюць са сваіх твараў заклапочанасць і сум. Няма чаму радавацца, застаецца толькі спадзявацца.

**Марына СЛІЖ.**

### Што ямо, спадары?



Як на рынку, так і ў магазінах горада можна купіць пратэрмінаваныя прадукты. Што рабіць, каб не трапіць у прасак?

3-я старонка

### Чым далей у лес



На тэрыторыі Вілейскага лясгаса працуюць рабочыя сумеснага беларуска-расійскага прадпрыемства "Профітсістэм".

5-я старонка

### У Крыме варта пабываць



З мноства вядомых крымскіх гарадоў пальма першынства належыць Ялце. З курортным горадам знаёміць Алесь Юр'еў.

6-7 старонкі

■ ТЭАТР

# Сказаць сваё слова

**Мінскі абласны драматычны тэатр у Маладзечне створаны на базе народнага. У кагорце тых, хто стаяў ля яго вытокаў, быў і Мікалай Мацкевіч, які працаваў мастацкім кіраўніком на працягу адзінаццаці гадоў. У сваім інтэрв'ю нашай газеце ён расказвае пра "ўчарашні" дзень тэатра і дзеліцца планамі на будучае.**

– Мікалай Пятровіч, штонебудзь змянілася ў тэатры за гэты час?

– Я прыйшоў у Маладзечанскі народны тэатр у 1982 годзе. Тады ён быў не вельмі вядомы. Паступова мы станавіліся ўсё больш папулярным калектывам. У 1984 годзе пра нас ужо ведалі ў рэспубліцы. Пачалі працаваць стабільна, удзельнічалі ў фестывалях у Маскве, Чэхаславакіі. Таму і ўзнікла ідэя стварыць прафесійны тэатр. Ды і горад без тэатра – гэта, як сказаў Аляксей Дудараў, вёска. Хацелася мець гарадскі тэатр, але гораду гэта не па кішэні. Таму ў 1991 годзе вырашылі стварыць абласны, тым больш, што ў Мінскай вобласці тэатра не было. Са стварэннем прафесійнага калектыву прыбавілася гледачоў.

Я звяртаў асаблівую ўвагу на дзіцячы рэпертуар, каб далучаць да гэтага віду мастацтва дзяцей. Першапачаткова была ўстаноўка працаваць на беларускай мове. Падбіралі добрыя беларускамоўныя п'есы, некаторыя перакладалі. Кола гледачоў пашырылася і за кошт дзяцей. Сёння ўсе ведаюць, што ў горадзе ёсць тэатр, чакаюць прэм'еры.

Паколькі калектыў быў малады, запрашаў народную артыстку Марыю Захарэвіч, якая вяла майстар-клас, Веру Кавалераву, што іграла ў спектаклях «Двое на арэлях», «Восем закаханых жанчын». Усё гэта для таго, каб маладыя артысты вучыліся ў майстроў сцэны.

З прыходам новага мастацкага кіраўніка, магчыма, з'явяцца нейкія новыя ідэі, новы накірунак працы. Мне здаецца, што павінен быць і класічны матэрыял, і сучасныя п'есы. У свой час шырока ставіў Дударава. Канешне, тэатр не вырашае праблем, але ён звяртае на іх увагу. Таму на нашай сцэне было пастаўлена «Адцуранне» Дударава, узнята праблема духоўнага Чарнобыля. Гледачу падабаецца «Прынц Мамабук», «Кім».

**– Акцёры бываюць розныя. Цяжка працаваць з імі?**

– Кожны артыст – індывідуальнасць. Трэба ўмець настроіць, накіраваць на тыя ідэі, якая ўзніклі пасля чытання п'есы. Я стараўся даваць артысту свабоду, каб ён натуральна ўваходзіў у матэрыял. Але пэўны дыктат, мусіць, заўсёды прысутнічае. Ідэі ж акцёра не заўсёды дакладна адпавядаюць задуме мастацкага кіраўніка.

**– У вас ёсць любімыя работы?**

– Усе спектаклі любімыя, як дзеці. Іншая справа, што нейкі атрымаўся лепш, нейкі горш. Мне падабаюцца і «Кім», і «Прынц Мамабук». А яшчэ «Вар'яцкі дзень, ці 2+2». Тэатр і адукоўвае, і забаўляе. Невядома, што больш. Бывае, што і артысту неабходна разняволіцца, пахуліганіць. Такім спектаклем стаў «Вар'яцкі дзень, ці 2+2».

**– Чым займаецеся зараз?**

– Пакуль што лецішчам, спалучаю прыемнае з карысным. Яшчэ хачу паставіць некалькі спектакляў. Мае задумы можна было б ажыццявіць пры наяўнасці таго калектыву, што быў раней. Гэта і цудоўны загадчык літаратурнай часткі Мікола Шабовіч, галоўны мастак Яўген Волкаў, кампазітар Алег Залётнеў. Шабовіч і Волкаў – гэта былі нашы вочы і вушы ў Мінску. Але людзі вымушаны былі пакінуць тэатр. Рассыпалася добрая каманда, і я страціў цікавасць да работы. А хацелася б паставіць «Качынае паляванне» Аляксандра Вампілава. Сёння магчыма іншае разуменне гэтай п'есы. Галоўны герой Зілаў раней успрымаўся як піжон, які процістаўляў сябе ўсяму грамадству. Цяпер я думаю, што Зілаў – прадстаўнік шчырых, сумленных людзей, якія пратэстуюць супраць ханжаства, «соннага жыцця». Вось колькі ў нас зараз Зілавых? Ці многа? Не ведаю.

Цікава было б зрабіць спектакль без слоў, калі акцёры нічога не гавораць, а ўсё зразумела. Можна праз песні расказаць аб часе. Гэта таксама няздзейсненая ідэя. Мне ў гэтым сэнсе яшчэ неабходна сказаць сваё слова.

**– Ці параіце сваім унукам прафесію мастацкага кіраўніка?**

– Не. Па-мойму, у іх няма адчування, што яны павінны гэтым займацца. Мастацкаму кіраўніку неабходна адчуваць, што ў грамадстве наспела праблема і з'явіўся актуальны матэрыял. Не мной пастаўлены «Вечар», а гэта праблема вастрэй адчуваецца сёння, чым у сярэдзіне 80-х гадоў, калі была напісана п'еса.

**– Што можаце пажадаць новаму мастацкаму кіраўніку?**

– Валерыя Ласоўскага ведаю добра, неаднаразова сустракаўся з ім. Я паставіў п'есу маладога драматурга Лявона Вашко «Секс па перапісцы». Ласоўскі зрабіў тое самае ў Віцебску. Хачу пажадаць, каб у яго склаліся добрыя адносіны з калектывам, творчых удач — усяго, што неабходна для стабільнай работы.

**Размаўляла Святлана ЦІШКО.**




**На мінулым тыдні змянілі шыльду на аўтобусным прыпынку насупраць Маладзечанскага Палаца культуры.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Стаў палацам «дворец»

**МАЛАДЗЕЧНА. "Кожны народ мае сваю мову і не цураецца, а ганарыцца ёй". Такімі радкамі пачынаўся матэрыял Марыны Сліж "Каб ведаць, хто мы...", змешчаны на старонках "Рэгіянальнай газеты" 18 ліпеня бягучага года.**

У ім карэспандэнт паспрабавала выступіць у абарону беларускай мовы, якую роднай, па апошнім перапісе, які адбыўся ў рэспубліцы чатыры гады таму, лічаць больш васьмідзесяці працэнтаў беларусаў, а палова ад гэтай колькасці і наогул штодзень на ёй размаўляе. Дык для каго ж тады, пыталася аўтар матэрыяла, звыклую вывеску "Чыгуначны вакзал" у Маладзечне памянялі на "Железнодорожный", а на шыльдзе, прымацаванай на аўтобусным прыпынку акурат насупраць новага Палаца культуры, напісалі "Дворец культуры".

Як жа прыемна былі здзіўлены чытачы нашай газеты, якія, дарэчы, і прынеслі навіну ў рэдакцыю, калі праз нейкі час пасля публікацыі шыльду памянялі і "Дворец" зноў стаў "Палацам". Ёсць у гэтым заслуга "Рэгіянальнай газеты" ці не, мы не ведаем. Аднак не ўтрымаліся, каб не засведчыць гэты факт на старонках газеты, бо па-ранейшым лічым, што народ жыве да таго часу, пакуль жыве яго мова.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Немцы сумелі здзівіць

У 1966 годзе ансамблю імя Агінскага выпалі шчасце і вялікі гонар выступіць за мяжой, у ГДР.

Прайшоўшы праслухоўванне ў Мінску, якое ладзіў ЦК ЛКСМ(б), мы накіраваліся ў дарогу. Гэта быў "Поезд дружбы" паміж ВЛКСМ і Саюзам свабоднай нямецкай моладзі.

У склад групы ўваходзілі баяніст, дуэт цымбал, шэсць танцораў, хаця на сцэне звычайна чатыры куты, і не больш за восем спевакоў. Кіраўніком нашай дэлегацыі ад Беларусі была работнік ЦК ЛКСМ(б) Нэлі Сцяпанаўна Кржыжаноўская.

Колькі нам было прачытана лекцый аб палітычнай сітуацыі ў свеце, уменні есці і сядзець за сталом, трымаць язык за зубамі, хадзіць групамі і не бадзяцца па аднаму, бо могуць быць правакацыі! Натворыш там што-небудзь, трапіш у пасольства, і тады твая першая паездка стане апошняй, а для большай надзейнасці за кожнымі трымя камсамольцамі замацавалі аднаго члена КПСС.

У Берліне ўсю дэлегацыю з СССР (350 чалавек) запрасілі ў вялікую залу, дзе стаяла мноства сталоў. На сцэне сядзеў вядомы ў той час эстрадна-сімфанічны аркестр Берлінскага радыё і тэлебачання. Пачаліся прамовы, якія змяняліся выступленнямі аркестра. Прамовы перакладаліся перакладчыкамі па мікрафоне, і нам усё было зразумела. У іх гучалі толькі дзве тэмы – мір і сяброўства. А вось аркестр проста ўразіў. На саксафоне іграў вядомы выканаўца Гюнтэр Голаш. Толькі дзеля яго аднаго трэба было ехаць.

Потым аркестр выканаў вялікую канцэртную фантазію на добра вядомыя ўсім мелодыі. Там былі "Сіняя хустачка", "Кацюша", "Калінка", а ў фінале гучала "Масква майская" з грукатам літаўр і барабанаў.

Акрамя гэтага, паміж сталоў танцавалі прыгожыя "лялькі" ў сетчатых калготках са швом ззаду, што прыдавала іх прыгожым нагам яшчэ большую прывабнасць. Мы трывалі, але не адварочваліся, хоць такое бачылі ўпершыню.

Немцы ўмелі і ўмеюць здзіўляць рэжысурай мерапрыемстваў, гасціннасцю, увагай і мастацтвам.

Стомленыя з дарогі і ад першых уражанняў, мы спалі моцна. Раніцой па радыё загучаў наш Дзяржаўны гімн СССР. Думаю, што гэта такое, здаецца, за мяжу ехаў, а, магчыма, пакуль спаў, назад адвезлі. Потым на рускай мове з нямецкім акцэнтам чую: "Добрай раніцы! Ужо пара ўставаць, а пакуль паслухайце музыку". Па гатэльным радыё трансліравалі запіс на магнітафоне.

Для нас быў асобны маршрут з прамысловымі гарадамі Губен, Любен, Любенаў, Котвус, а таксама культурна-гістарычнымі Патсдамам, Дрэздэнам і Берлінам.

Цяжка перадаць уражанне ад экскурсій. Мы бачылі сваімі вачыма такую прыгажосць, хадзілі па палацы караля Фрыдрыха II, парку "Сан-Сусі", дзе ў час вайны не прайшоў ніводны савецкі танк, стаялі каля крэсла правадыра ўсіх народаў І.В.Сталіна, на якім ён сядзеў на Патсдамскай канферэнцыі.

Потым быў знакаміты Цвінгер і Дрэздэнская карцінная галерэя. Ці ж маглі мы думаць, што спаткаемся з сусветна вядомымі шэдэўрамі Клода Манэ, Поля Сезана, Вінсента ван Гога, Эдгара Дэга, нямецкіх мастакоў-антыфашыстаў мужа і жонкі Ганса і Лео Грундзінг і нарэшце застынем каля "Сікстынскай мадоны" самога Рафаэля.

Трэптаў парк у Берліне ўзрушыў сваёй веліччу і строгасцю форм.

Але як бы там добра не было, насцярожвала шэрасць вопраткі ваенных і паліцэйскіх ды вельмі хацелася дахаты.

Да слёз тады мяне крануў вядомы хірург Віктар Цімафеевіч Новікаў. За тыя маленькія грошы, якія яму з жонкай, доктарам-кардыёлагам Вольгай Васільеўнай, выдалі на сувеніры, у кожным горадзе ён шукаў і купляў медыцынскі інструмент для сваіх таленавітых аперацый. Ці трэба было хваляваца за такіх людзей?

Сабе я тады набыў драўляную дудачку блок-флейту, некалькі пэндзлікаў і губных гармонікаў, але нішто не магло замяніць той асалоды і ўражанняў, якія ў мяне засталіся.

Пасля Германіі неяк адразу адбыліся выступленні ў Беластоку і Гайнаўцы.

Неўзабаве быў вымушаны развітацца са смаргонскімі артыстамі, бо мяне перасталі адпускаць з работы для ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці Гродзенскай вобласці. Маладзечна – гэта Мінскай вобласць. І папрасілі аб гэтым не забываць.

Спаткаўся зноў з народным ансамблем імя Агінскага ў Маскве, дзе мы выступалі на агульных пляцоўках. Гэта былі Крамлёўскі тэатр, ВДНГ СССР і Зорны гарадок.

Маладзечанцам не ўдалося пабачыць кагосьці з касманаўтаў, а вось смаргонцам пашчасціла. На іх канцэрце прысутнічаў лётчык-касманаўт СССР Павел Раманавіч Паповіч, муж вядомай лётчыцы Марыны Паповіч.

Шчаслівыя, яны фатаграфаваліся разам з касманаўтам, былі аўтографы, а потым доўга смяяліся пасля пытання, якое Павел Раманавіч задаў смаргонскім артыстам: "Чым адрозніваецца муж ад касманаўта?". Адказ быў такім: "Касманаўт заўсёды ведае свайго дублёра, а муж – ніколі".

Гэта быў сапраўдны ўзлёт самадзейнага мастацтва на касмічную вышыню, таму што выступіць на такіх сцэнах Масквы лічылася самым вялікім гонарам.

Да гэтага часу кожны з нас захоўвае значок і пасведчанне-віншаванне з выступленнем на сцэне Крамлёўскага тэатра.

**Юрый ЦЕРАБУН.**

# Што ямо, спадары?

**МАЛАДЗЕЧНА. За 10 дзён ліпеня спецыялістамі раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праведзены 72 рэйдавыя праверкі ўстаноў гандлю і грамадскага харчавання, аштрафаваны 26 адказных асоб.**

Усе выяўленыя недахопы звязаны з парушэннямі ўмоў захоўвання і тэрмінаў рэалізацыі прадуктаў, якія хутка псуюцца. Да іх адносяцца малочныя, мясныя, кандытарскія і інш. Пратэрмінаваныя прадукты выяўлены ў магазінах "КААператар", "Сельгаспрадукты", "Дары прыроды", "Легенда", магазіне №1 мясакамбіната, Арт – кафэ "Майстар клуб" і інш. Пастановай галоўнага дзяржаўнага санітарнага доктара Маладзечанскага раёна ўсе яны ў колькасці 93 кілаграмы 945 грамаў знятыя з рэалізацыі.

Выяўлена таксама, што на шэрагу аб'ектаў не вытрымліваецца тэмпературны рэжым работы халадзільнага абсталявання. Грашаць гэтым сталовая "Маладзечнамэбля", дзе градуснік у халадзільніку паказвае +18 градусаў, сталовая ААТ "Электрамодуль" – +15 градусаў пры норме +6. Да кіраўнікоў вышэйпералічаных арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў, што таксама трапілі ў спісы заканапарушальнікаў, прыменены меры адміністрацыйнай адказнасці.

Пра што гавораць вышэйпералічаныя факты? У першую чаргу пра бездакзнасць, халатнасць як прадаўцоў, так і кіруючых работнікаў, абыякавасць якіх можа прывесці да харчовых атручэнняў, вострых кішэчных інфекцый сярод людзей, якія купілі сапсаваныя прадукты. Таму раім пакупнікам быць больш уважлівымі і часцей глядзець на маркіроўку малочнай прадукцыі, дзе на ўпаковачнай тары вытворца ставіць час і дзень канчатковага тэрміну рэалізацыі прадукцыі. Напрыклад, 242707 азначае, што малако можна ўжываць толькі да 24 гадзін 27 ліпеня. Кожны батон кілбасы, бе- кону таксама мае маркіроўку з датай вырабу, на ім жа ўказваецца і тэрмін рэалізацыі прадукцыі.

Хоць гароднiна і садавіна не хутка псуецца, але таксама можа ўтрымліваць шкодныя рэчывы – нітраты. Нормы іх у бульбе ранняй – 300+72 мг/кг, капусце – 800+196 мг/кг, агурках – 150+40 мг/кг, дыні – 90, гарбузах – 60 і гэдак далей. Перавышаная ж канцэнтрацыя нітратаў можа выклікаць атручэнні, якія звычайна праходзяць з павышанай тэмпературай, ванітаваннем, расстройствамі страўніка.

Калі робіце ў гэтыя спякотныя дні пакупкі ў магазіне, на рынку, памятайце, што засцерагчы сябе ад недабраякасных прадуктаў можаце толькі самі. Для гэтага трэба запатрабаваць у прадаўца пасведчанне аб якасці прадукту харчавання, у тым ліку і на ўтрыманне нітратаў. Ну, а калі вам усё ж непашчасціла, і прадукты, якія прынеслі дадому, аказаліся недабраякаснымі, тэлефануйце па 69535 з 8.00 да 9.30 і з 15.00 да 17.00 (акрамя выхадных) у раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

**Людміла ЕРМАЧЭНКА,**
**в. а. галоўнага доктара Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## Працуюць «гарачыя тэлефонныя лініі»

**Маладзечанскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі паведамляе, што з 1 жніўня 2003 года кожны жыхар горада і раёна па "гарачай тэлефоннай лініі" ў рабочыя дні можа атрымаць кансультацыю ў рэспубліканскім, абласным і раённым цэнтрах гігіены і эпідэміялогіі па наступных пытаннях:**

| Пытанні | Назва цэнтра, кантактныя тэлефоны, час: рэспубліканскі | абласны | раённы |
|---|---|---|---|
| 1. **Бяспечнасць харчовых прадуктаў** | **2774416** 9.00 -18.00 | **2327729** 8.30 -17.30 | **69535** 8.00 - 9.30 15.00-17.00 |
| 2. **Гігіенічныя аспекты вады, паветра, глебы** | **2774817** 9.00-18.00 | **2322581** 8.30-17.30 | **61511** 8.00 - 9.30 15.00 -17.00 |
| 3. **Прафілактыка інфекцыйных захворванняў** | **2771115** 9.00-18.00 | **2312614** 8.00-17.30 | **53235** 8.00 - 9.30 15.00 -17.00 |
| 4. **Праблемы ВІЧ/СНІД** | **2277911** 9.00-18.00 | **2311326** 8.30-17.30 | **54054** 8.00 - 9.30 15.00 -17.00 |

## Курсы валют НБ РБ

| | 31.07 руб. | 7.08 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2073,00 | **2077,00** |
| Еўра | 2370,99 | **2367,88** |
| Злоты | 542,39 | **540,84** |
| Літ | 686,56 | **685,83** |
| Расійскі рубель | 68,50 | **68,55** |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2075/2100 | **2070/2100** |

## Маладзечна
## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 30.07 | 6.08 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 12600 | **11600** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 4000 | **4310** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2800 | **2800** |
| **Рыс**, 1 кг | 820 | **800** |
| **Грэчка**, 1 кг | 1450 | **1450** |
| **Цукар**, 1 кг | 1310 | **1310** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1000 | **850** |
| **Алей**, 1 л | 1900 | **1850** |
| **Маянэз**, 200 г | 500 | **500** |
| **Кава «Пеле»**, 100 г | 2200 | **2200** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г. | 900 | **900** |
| **Соус там.«Мінскі»**, 0,5 л | 750 | **800** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 1100 | **950** |
| **Капуста**, 1 кг | 350 | **300** |
| **Морква**, 1 кг | 700 | **500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 2100 | **2100** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1980 | **1950** |
| **Памідоры**, 1 кг | 900 | **700** |
| **Агуркі**, 1 кг | 350 | **200** |
| **Кавуны**, 1 кг | 900 | **500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 2000 | **1700** |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| **Малако**, 1,5 л | 700 | **650** |
| **Смятана**, 1 л | 2000 | **1800** |
| **Масла**, 1 кг | 4300 | **4600** |
| **Тварог**, 1 кг | 1800 | **1800** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1400 | **1300** |
| **Бульба**, 1 вядро | 5000 | **3500** |
| **Вішні**, 5-літр. вядро | 10000 | **15000** |
| **Маліны**, 5-літр. вядро | 7500 | **8000** |
| **Чырв. парэчкі**, 5-літр. | 4000 | **4000** |
| **Агрэст**, 5-літр. вядро | 7000 | **6000** |
| **Чарніцы**, 5-літр. вядро | 8000 | **8000** |
| **Алыча**, 5-літр. вядро | | **3500** |
| **Слівы**, 5-літр. вядро | | **8000** |
| **Шыпшына**, 5-літр. вядро | | **2500** |
| **Яблыкі**, 5-літр. вядро | | **1500** |

## МТС у Мядзеле

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры запрацавала сетка мабільнай сувязі МТС.**

Антэну ўсталявалі на найвышэйшым будынку ў горадзе – паліклініцы. Там жа знаходзіцца і "вэлкамаўская" антэна. І яшчэ адзін аператар сотавай сувязі – "Белсэл" – са стандартам cdma2000 збіраецца прыйсці ў раён.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Патрэбны сведкі

МАЛАДЗЕЧНА. 16 ліпеня 2003 года каля цэнтральнага рынку па вуліцы Б. Хмяльніцкага ў выніку наезду веласіпеда атрымала цялесныя пашкоджанні грамадзянка З. Кацпэнак. Сведкаў здарэння просім тэлефанаваць у ГРАУС па тэл. у Маладзечне 5-44-44, 7-08-22.

**Руслан СКВАРЦОЎ, інспектар па дазнанні ДАІ Маладзечанскага ГРАУС.**

## Удакладненне

**У нашай газеце за 1 жніўня ў артыкуле "Знікла жанчына" пад матэрыялам няправільна ўказана пасада палкоўніка міліцыі Віктара Марозава. Ён начальнік Маладзечанскага ГРАУС.**

■ **РОЗДУМ ЧЫТАЧА**

# Эх, бяда, не п'ецца вада...

**МАЛАДЗЕЧНА. Давярай, але правярай, гаворыць народная мудрасць. Абаненты, што ставілі свае подпісы пад дагаворам на водпуск вады і пропуск сцёкавых вод насельніцтву, наўрад ці памяталі пра гэта.**

Я б ніколі не ўзяўся за алавак, калі б не ўбачыў стосіка падпісаных дагавораў паміж камунальным унітарным прадпрыемствам "Маладзечнаводаканал" і ўладальнікамі кватэр. Людзі, што вы падпісалі, захацелася спытаць мне ў іх, і небеспадстаўна.

Як вядома, дагавор – гэта добраахвотная дамоўленасць аб узаемных абавязацельствах. Якія ж абавязацельствы ў КУП "Маладзечнаводаканал"? Цытую даслоўна: "Забяспечыць вадой "Абанента" для гаспадарча-бытавых патрэб і прыняць ад яго сцёкавыя воды". Давайце цяпер возьмем у рукі той дакумент і паспрабуем знайсці, якой жа вадой павінны нас забяспечыць. Той, што адпавядае СНІП №10-124 РБ 99 ці рудым брудам, які часта цячэ з кранаў? І як забяспечыць: кругласутачна, па графіку, раз у тыдзень? Нічога гэтага вы не знойдзеце ў тым дагаворы, як і ў раздзеле "Адказнасць бакоў", дзе работнікі унітарнага прадпрыемства таксама не асмеліліся запісаць сабе ніводнага абавязацельства, толькі дружна агаварылі, за што яны адказнасць не нясуць.

Затое ў "Абанента" абавязкаў – хоць адбаўляй. Ці далі вам зарплату альбо пенсію, ці не, а з "Водаканалам" разлічыцца павінны. У іншым выпадку вада ў кватэру наогул перастане паступаць, прычым, без папярэджання. А калі захаціце яе падключыць зноў, то, будзь добры, заплаці не толькі за спажытае, але яшчэ й за адключэнне і паўторнае падключэнне вады.

І ў той жа час КУП "Водаканал" не нясе адказнасці за паступленне вады ў кватэры, калі дзесьці адключылі электраэнергію і не працуюць помпы, не спытаеш з іх і ў выпадку аварыі на магістралі. Чаму? Што ні пункт – пытанні, пытанні... Так і хочацца сказаць: "Людцы добрыя! Вы ж глядзіце, што падпісваеце. Дакуль жа нас будуць лічыць дурнямі". Сёння КУП "Водаканал", заўтра домакіраўніцтва, пасля заўтра энергаглял, тады гаргаз, сувязісты могуць павязаць па руках і нагах, і мы нічога не зможам даказаць нават у судовым парадку, бо ўласнаручна паставілі подпісы пад такімі кабальнымі ўмовамі.

У любым дагаворы павінна быць ясна напісана, што павінен рабіць і адзін, і другі бок, як вырашаюцца спрэчкі і, запісваючы іх, абодва бакі павінны апірацца на законныя, а не падзаконныя акты і палажэнні. Усё астатняе – дабравольная дамоўленасць абодвух бакоў. Калі ж будзем такімі абыякавымі, то ў хуткім часе асобныя арганізацыі змогуць унесці ў свае дагаворы пункт, які сведчыць, што мы павінны часаць ім пяткі, а людзі, не чытаючы, возьмуць ды й падпішуцца.

**З прывітаннем Андрэй РУБЛЁЎ.**

■ **ПЕРАСЦЯРОГА**

## Збірайце і... правярайце

**Толькі за дзесяць апошніх дзён ліпеня пастом радыяцыйнага кантролю Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі былі даследаваны 75 узораў проб на ўтрыманне радыенуклідаў. Сярод іх: грыбоў – 27, чарніц – 29.**

Завышанае ўтрыманне радыенуклідаў цэзію выяўлена ў чатырох пробах грыбоў, сабраных каля вёсак Шыкава Лебедзеўскага сельсавета, Сасновы Бор Лебедзеўскага (ля інфекцыйнай бальніцы), Талуці Мядзельскага і ў чарніцах, сабраных у Мардосах Вілейскага раёна.

Грыбы і ягады, сабраныя ля населеных пунктаў Турэц-Баяры, Плёсы, Красоўшчына, Чысць, Мазалі, Навасёлкі, Кліманты, Вайцелі, Мясата, Пралескі, Крыніца, Павязынь, Пекары, Самалі, Боркі, Рачкава, Камарнікі і інш., пры дазіметрычным кантролі аказаліся чыстымі.

Планава даследаваны 4 пробы гароднiны з вёскі Хоўхлава, утрыманне радыенуклідаў не перавышае ўзроўню. Даследаваны 20 проб грыбоў і ягад з лясоў Вілейскага, Ашмянскага, Валожынскага і Мядзельскага раёнаў. Скажам, што грыбы і ягады збіраць у нашым рэгіёне можна, але ўжываць іх дазваляецца толькі пасля дазіметрычнага кантролю, які, дарэчы, праводзіцца бясплатна з 8 да 17 гадзін штодзённа, акрамя нядзелі (вуліца Чкалава, 2 а).

**Віктар БЕЛІК, доктар-радыёлаг.**

■ СТРАЧАНЫЯ ІМЁНЫ

# Стваральнік «Люду беларускага»

**Імя гэтага чалавека цесна звязана з жыццём нашага рэгіёну. Ён збіраў матэрыялы аб прафесійнай і духоўнай дзейнасці яго жыхароў. Падчас сваіх экспедыцый ён наведваў у шэрагу іншых Вілейскі павет Віленскай губерніі. Падтрымліваў сваімі дарункамі Музей Таварыства сяброў навук у Вільні. Усе даходы сваёй гаспадаркі ён траціў на вандроўкі і навуковыя даследаванні. Актуальнымі ў сучаснасці выглядаюць яго словы-роздум: "Ці беларускі народ прыйдзе калі-небудзь да самасвядомасці? Як паляк я сардэчна гэтага яму жадаю".**


Партрэт Міхала Федароўскага.

150 год таму назад у Варшаве нарадзіўся хлопчык, якога пасля назавуць вядомым фалькларыстам і этнографам, археолагам і калекцыянерам. Гэта быў Міхал Федароўскі. З біяграфічных дадзеных вядома, што бацька будучага даследчыка ўдзельнічаў у паўстанні 1863-1864 гадоў і быў вымушаны жыць у эміграцыі. У 1870 годзе Міхал скончыў Варшаўскую прагімназію. 4 гады навучанне ішло на рускай мове. За гэты час прыйшла зацікаўленасць фальклорам, які юнак пачаў запісваць ад варшавян. Прыказкі і прымаўкі сістэматычна занатоўваліся.

Вучыўся хлопец з вялікімі перапынкамі. У 13 год захвараў на сухоты. Таму шмат часу праводзіў у вёсцы ў дзеда. Апавяданні пра старадаўнія часы, пра паўстанне 1830 года спрыялі выхаванню патрыятызму. Дзед зацікавіў хлопца і старымі песнямі.

Пакліканы бацькам, Міхал робіць спробу ў 1870 годзе выехаць у Францыю. Але на мяжы яго спыняюць і вяртаюць у Варшаву пад паліцэйскі нагляд. Бацька ж яго ў гэты год ся гіне пад Арлеанам як салдат-вольнанаёмнік. Выпадак падштурхоўвае маладога чалавека да навучання, бо пра гэта да апошняга дбаў яго бацька-іншадумец.

Пад кіраўніцтвам Ф.Крупінскага, былога свайго настаўніка па школе на Лешні, Міхал пачынае паглыблена вывучаць філасофію, літаратуру. Культ факту, які панаваў у гэты перыяд у грамадстве, знайшоў адлюстраванне ў спробе юнака займацца канкрэтнай справай – агратэхнікай. Рэальнае жыццё таксама не засталося без увагі – ён стаў фалькларыстам і этнографам.

У 1873 годзе Міхал запісваецца вольным слухачом агранамічнага факультэта Пятроўска-Разумоўскай Акадэміі пад Масквой. Праз 5 месяцаў ён пакідае заняткі з-за паўторнага запалення лёгкіх. Родныя раяць знайсці працу на свежым паветры. Працуючы аграномам у шляхецкіх маёнтках, Міхал сутыкаецца з беларусамі. Бачыць іх звычаі, абрады. Наведваючы Вільню, знаёміцца з Яўстафіем Тышкевічам, Вандалінам Шукевічам, Люцыянам Марачэўскім.

Падарожжы па Польшчы пазнаёмілі яго з буйнымі гарадамі, старажытнымі замкамі, ён цікавіцца жыццём простых людзей. У Кракаве сустракае Адрыяна Баранецкага, стваральніка і захавальніка фондаў Прамыслова-тэхнічнага музея. У яго Федароўскі сустракаецца з вядомым этнографам Зыгмунтам Глогерам. Хутка яны пасябравалі і пачалі рабіць сумесныя экспедыцыі. У 1875-1877 гадах Міхал збіраў матэрыял для манаграфіі "Люд ваколіц Жарак, Севежа і Пілiцы...", выдадзенай у 2-х тамах у 1888-1889 гадах.

У 1877 годзе Федароўскі пераехаў у Пружанскі павет Гродзенскай губерні. На Беларусі ён пражыў 30 год і за гэты час зрабіў шмат для даследавання духоўнай і матэрыяльнай культуры тутэйшых жыхароў. Збіраў кнігі, гістарычныя дакументы, творы жывапісу і графікі, фальклор. Займаўся археалагічнымі раскопкамі курганоў, могільнікаў. Збіраў матэрыялы для археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі.

Сабраў 5 тысяч народных песень, 10 тысяч прыказак, сотні казак, паданняў, прымхаў, сакрэтаў народнай медыцыны. Заахвочваў да збору фальклору мясцовых карэспандэнтаў. Больш за паўтары тысячы песенных і танцавальных мелодый запісалі за ім Я.Карловіч, Л.Патул, І.Грачык.

Публікацыю назапашанага пачаў з 1887 года ў працы пад назвай "Люд беларускі". Пры яго жыцці выйшлі толькі тры тамы з запланаваных чатырнаццаці (1897-1903). Наступных 5 тамоў пабачылі свет у 1935-1981 гадах. Ненадрукаваная спадчына цяпер захоўваецца ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта ў нацыянальным архіве Польскага этнаграфічнага таварыства ў Вроцлаве і архіве Польскай акадэміі навук.

Марыў выдаць асобны том, прысвечаны матэрыяльнай і духоўнай культуры простага беларускага народа і шляхты, дапоўніць вядомы слоўнік І.І.Насовіча 4283 аркушамі сваіх моўных запісаў.

З 1905 года і да канца сваіх дзён жыў у Варшаве, але адтуль падтрымліваў сувязі з беларускімі карэспандэнтамі, антыкварамі, калекцыянерамі. Прымаў удзел у фарміраванні калекцый Тышкевічаў, Д.Віткі-Яжэўскага, пры яго пасрэдніцтве А.Чалоўскі набыў матэрыялы з архіваў родаў Грабоўскіх, Пацаў, Сапегаў, Пацеяў, Храптовічаў. Па даручэнні калекцыянера К.Пржыбыльскага адшукваў старадрукі ў Варшаве і Вільні.

У час першай сусветнай вайны частку збораў прадаў праз антыкварную краму. 350 кніг і фотаздымкаў ахвяраваў інстытуту антрапалагічных навук Польшчы. Астатняе раздаў сябрам С.Дэмбу, М.Абрамовічу, Я.Гамаліцкаму і іншым.

10 чэрвеня 1923 года Міхала Федароўскага не стала. Пахаваны ён на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве. Варшаўскае навуковае таварыства на яго магіле ўстанавіла пліту з надпісам: "Міхал Федароўскі, этнограф, аўтар "Люду беларускага. 1852-1923".

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ЖЫЦЦЁВАЕ

# Яна сілы ў сабе знайшла

Тамары снілася дарога. Роўная, гладкая, а на ёй – дзяўчынка. Белявая, з блакітнымі стужкамі ў косах і такой жа сукеначцы. Стаіць, азіраецца палахліва па баках і бачна, быццам бы не ведае куды ісці. "Дачушка, сюды, да мяне!" — кліча яе Тамара. Дзяўчынка паварочвае галоўку, працягвае ручкі. Жанчына спрабуе ўзяць яе маленькія далонькі ў свае, але дарога раптам ператвараецца ў эскалатар, які падымае дзіця ўверх, і Тамара, як ні стараецца, не можа да яе дацягнуцца. Жанчына што ёсць моцы крычыць і прачынаецца.

Адубелая спіна (пасля ўчарашняй папойкі так і засталася спаць за сталом) не дае падняцца з крэсла. Жмурачы вочы, Тамара глядзіць у акно, дзе даўно ўжо гаспадарыць раніца, затым на маленькі гадзіннічак на стале і нейкім сіплым, не сваім голасам гукае: "Света! У школу!" "Не раві, — прасунуўшы ў дзверы кухні кудлатую, даўно нястрыжаную галаву, не то папрасіў, не то загадаў муж.— Няма Светы, месяц як няма, за гэты час магла б і прывыкнуць". Жанчына ўстала, беручыся за сцены, дайшла да пакоя, у якім яшчэ надаўна жыла дзяўчынка, дастала з шафы яе сукеначку і горка заплакала. Так, як жыла цяпер, жыць яна не хацела, але і сіл, каб спыніцца, знайсці ў сабе не магла.

Тамара вырасла ў дружнай, забяспечанай сям'і. Маці, настаўніца музыкі, і бацька – кадравы ваенны, песцілі яе, як маглі. У дзяцінстве яна мела самых прыгожых лялек, будучы школьніцай пісала ручкай з залатым пяром, а паступіўшы ў інстытут, жыла не ў інтэрнаце, як усе студэнты, а ў асобнай аднапакаёвай кватэры, якую бацькі здымалі для яе недалёка ад інстытута. У гэтай дзяўчыны былі самыя прыгожыя і дарагія рэчы, грошы, якіх хапала на абеды ў кафэ, і залаты характар. Тамара пісала за хлопцаў са сваёй групы рэфераты, рашала за суседзей на экзаменах задачы, а ўсе сяброўкі бегалі на спатканні ў яе суkenках.

З Сяргеем яны пазнаёміліся на студэнцкай дыскатэцы. Высокі, смяшлівы хлопец, неяк адразу запаў у душу. Сталі сустракацца часцей, разам праводзіць выхадныя, а праз год пасля знаёмства, акурат напярэдадні пераддыпломнай практыкі, пажаніліся.

Кватэру маладым спецыялістам, паколькі працаваць трапілі на адно прадпрыемства, далі хутка. Абставіць яе дапамаглі бацькі, а на машыну ўжо зарабілі самі. Аднак не цешыла ўсё гэта багацце сям'ю. Медыкі сказалі, што па стану здароўя Тамара не можа мець дзяцей. Якіх толькі святіл медыцыны яна не аб'ездзіла, у якіх толькі санаторыях, бальніцах не лячылася – безвынікова. А акурат напярэдадні пятнаццацігадовага юбілею сумеснага жыцця зразумела, што цяжарная.

Сяргей увесь час казаў, што гэта яго малітвы пачуў бог. Тамара была ўпэўнена, што ўсявышні пашкадаваў яе. Колькі начэй не спала, колькі разоў прасіла яго злітасцівіца, паслаць сына альбо дачку, без якіх жыццё было сумным і нецікавым, без якіх яна была не такая, як усе. Пасля кансультацыі ў паліклініцы патэлефанавала бацькам. Будучыя бабуля з дзядулем былі на сёмым небе ад шчасця і, узяўшы водпуск за свой кошт, прыехалі з поўначы, каб раздзяліць з дзецьмі радасць.

У радзільнае аддзяленне Тамару забралі вечарам. Дзяўчынка нарадзілася толькі а дзевятай гадзіне раніцы наступнага дня. Увесь гэты час Сяргей правёў пад вокнамі бальніцы, а, даведаўшыся пра нараджэнне першынца, не прамінуў ніводнага знаёмага, каб не падзяліцца радасцю.

Тамару выпісалі на шостыя суткі. Нягледзячы на тое, што на двары стаяў люты, у кватэры было цесна ад кветак. Яны стаялі ў вазах на стале, падаконніках, у слоіках на падлозе. Сяргей выканаў сваё даўняе абяцанне, у дзень нараджэння дзіцяці засыпаў жонку кветкамі.

Дзяўчынка была надзіва спакойная. Першыя два месяцы яна толькі ела і спала. А мама тым часам прымала шматлікіх гасцей. Каб павіншаваць з нараджэннем дачушкі, прыходзілі сваякі, суседзі, сяброўкі, дзяўчаты з яе бухгалтэрыі і мужавы знаёмыя па рабоце, рыбалцы. Усіх яны шчодра частавалі, запрашалі прыходзіць у госці яшчэ і кожны месяц, 12 чысла, адзначалі дачушчын дзень нараджэння. Пілі за Святланчыны тры, чатыры, пяць месяцаў, а пасля сталі прыкладвацца да чаркі і без дай прычыны.

Першы трывожны званочак прагучаў, калі дзяўчынцы споўніліся чатыры гады. Тата з мамай забыліся забраць яе з садка. Выхавальніца прасядзела з дзяўчынкай дапазна, а пасля вырашыла сама адвесці дадому. Дзверы кватэры ніхто не адчыніў. Раніцай у садок з каробкай цукерак і бутэлькай шампанскага прыбегла мама. Яна плакала, цалавала разгубленую дачушку і расказвала гісторыю пра тое, як сярод лесу, куды ездзілі збіраць грыбы, сапсавалася машына. Выхавальніца цяжка было паверыць у гэту гісторыю: ад Тамары пахла гарэлкай.

Праз тыдні два гісторыя паўтарылася зноў. А калі Святланцы прыйшоў час ісці ў школу, ні мама, ні тата ўжо нідзе не працавалі. Былыя галоўны бухгалтар і галоўны інжынер сядзелі дома і пацюху прапівалі нажытае дабро. І ніхто ўжо іх не мог выцягнуць з гэтай багны: ні суседзі, ні знаёмыя, ні бацькі. Яны іх проста не пускалі ў кватэру.

Падрыхтоўчы клас дзяўчынка закончыла дома. У першы пайшла ў школе-інтэрнаце: маму і тату пазбавілі бацькоўскіх правоў. Бачыў бы хто, як цяжка было гэтаму ласкаваму, не па ўзросту разумнаму дзіцяці ў сценах дзяржаўнай установы. Выхавальніца, каб хоць крышку аблегчыць боль, брала яе на выхадныя дадому, у сваю сям'ю. Увесь гэты час Светачка не адыходзілася ад тэлефона. Набірала і набірала нумар сваёй маладзечанскай кватэры, каб пагаварыць з мамай. Час ад часу яна здымала трубку, размаўляла з дачкой, абяцала прыехаць і забраць назаўсёды. Дзіця жыло надзеяй, маці ўсё не было. Праз нейкі час яна перастала адказваць і на тэлефонныя званкі. Бачачы, як цяжка дзяўчынцы, выхавальніца наведалася да гора-маці. Тая была жывая і здаровая, проста за няўплату ёй адключылі тэлефон.

...У інтэрнаце рыхтаваліся адзначыць Свецін дзень нараджэння. З белымі стужкамі ў косах яна сядзела ў цэнтры стала і старалася здавацца шчаслівай. А ў вачах ты часам стаяў невыносны сум. Дзіця да апошняй хвіліны чакала сваю маці, якая проста не мела права прапусціць такі дзень.

Тамара знайшла ў сабе сілы прыехаць у інтэрнат. Відаць, да сустрэчы яна рыхтавалася. Аб чым гаварылі падфарбаваныя вейкі, вусны. Толькі не магла касметыка схаваць сляды беспрабуднага п'янства. Чырвоны нос, сінявы твар гаварылі самі за сябе.

Яны доўга аб чымсьці размаўлялі са Светай. А калі мама пайшла, дзяўчынка доўга глядзела ёй услед і раз-пораз выводзіла ручкай нейкія фігуркі ў паветры. "Што ты робіш?" — спыталася ў яе выхавальніца. "Мамку хрышчу, каб больш не піла".

Відаць, неба і сапраўды пачула тую просьбу, даўшы сілы жанчыне, якая страціла работу, людскую павагу і самае дарагое, што было ў яе на гэтым свеце, – дзіця, падняцца над сабой. За кароткія паўгода Тамара кінула піць, уладкавалася на работу, зрабіла рамонт у кватэры, заказдзіравала мужа і нават завяла новых сяброў, якія падтрымлівалі і дапамагалі.

... Праз школьны двор, выцягнуўшы насустрач маме ручкі, бегла дзяўчынка. Тая прыгарнула дачку, пацалавала яе цёплыя далонькі. Страшны сон не паўтарыўся. Рашэннем суда Тамару аднавілі ў бацькоўскіх правах.

**Марына СЛІЖ.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Чым далей у лес...

**ВІЛЕЙКА. Пакуль скакала ў сарафане і басаножках праз завалы сасновых галін і мікраштабелькі бярвёнаў, сказала сама сабе ўсё, што думаю пра сваё легкадумнае ўбранне, і пашкадавала людзей, якія вымушаны працаваць у такіх умовах. Крыху паблукаўшы, усё ж заўважыла між дрэў мільганне жаночай блакітнай вадалазкі. Гэта была Валянціна Скулавец, майстар па лесанарыхтоўках.**

Высветлілася, што на тэрыторыі Вілейскага лягсаса шчыруюць рабочыя сумеснага беларуска-англійскага прадпрыемства «Профітсістэм» з Плешчаніцаў. А каля вёскі Панядзічы працуюць віляйчане: танней было наняць жыхароў райцэнтра, чым вазіць плешчаніцкіх работнікаў.

Розныя жыццёвыя абставіны сабралі гэтых людзей 23 мая 2002 года ў адзін калектыў. Валянціна Скулавец раней працавала памочнікам ляснічага, затым пэўны час была беспрацоўнай, цяпер яна майстар. Пад яе кіраўніцтвам – 6 вальшчыкаў і 4 лесарубы. Звычайна працуюць па двое — вальшчык і лесаруб. За дзень кожная брыгада нарыхтоўвае 10 кубаметраў драўніны. Адзін кубаметр — 4100 рублёў. За месяц чалавек можа зарабіць 200-300 тысяч рублёў. Работа нялёгкая. Адзін з вадзіцеляў транспартнай машыны кажа: «Я б не пайшоў працаваць на іх месца. Нават за 500 тысяч, бо працуюць, як шахцёры, а зарабляюць, бы пенсіянеры. На гэта трэба мець здароўе». Вось і ідуць на заробкі ў лес маладыя хлопцы да 35 гадоў, палова з іх нежанатыя.

Ад выпівох майстар стараецца пазбавіцца адразу. Уяўляеце, што можа натварыць п'яны вальшчык з бензапілой? Хто застаецца, працуе добра. Асабліва Валянціна Скулавец адзначыла Алега Малюшкіна, Аляксандра Лупекіна, Андрэя Жаўняровіча і Міхаіла Багдановіча.

Дарэчы, лесарубам можа быць кожны мужчына, абы медкамісія прапусціла. А вось на вальшчыка трэба вучыцца спецыяльна, напрыклад, у Барысаўскім ПТВ, і мець пасведчанне ўстаноўленага ўзору. Адпаведна і заробак будзе на 10% большы, чым у неспецыяліста.

Апошнія тыдні горача, таму працоўны дзень пачынаецца раней, пакуль не вельмі пячэ сонца. Авадні не даймаюць, кляшчоў чакаюць толькі ў верасні. Так што працаваць можна, было б жаданне.

**Святлана ЦІШКО.**



Вальшчык лесу беларуска-англійскага прадпрыемства "Профітсістэм" Аляксандр Лупекін падпраўляе штабель. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

## Збіраліся леснікі

**ВІЛЕЙКА. Супольнае пасяджэнне калегій Камітэта лясной гаспадаркі пры Савеце Міністраў і Мінскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання адбылося нядаўна на базе Вілейскай лясной гаспадаркі.**

У гэты ж дзень прайшоў абласны выязны семінар на тэму "Тэхналогіі натуральнага і штучнага аднаўлення лясоў гаспадарча-каштоўнымі дрэўнымі пародамі".

Усе 19 лягсасаў вобласці прадстаўляліся дэлегацыямі ў складзе дырэктара, галоўнага лесніка, галоўнага бухгалтара і галоўнага інжынера. Усяго ў працы семінара ўзялі ўдзел 105 чалавек. Камітэт лясной гаспадаркі пры Савеце Міністраў прадстаўляў намеснік старшыні Мікалай Юшкевіч.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ РЭКІ РЭПЁНУ

## Заходняя Бярэзіна

**На басейн буйнейшай ракі Бярэзіны прыпадае 37 працэнтаў тэрыторыі Маладзечанскага раёна, 99 – Валожынскага, 15 – Смаргонскага і 20 – Ашмянскага.**

Плошча вадазбору складае 4000 кіламетраў квадратных, сярэднегадавы расход вады ў вусці – 30 тон за секунду. Амаль усе прытокі Бярэзіны каналізаваныя. Усяго ў басейне каля 20 каналаў, агульная даўжыня якіх складае больш за 150 кіламетраў. Пойма Бярэзіны вельмі забалочаная, таму непасрэдна на вадастоку буйных населеных пунктаў мала. Вялікія паселішчы Валожын, Ракаў, Багданаў, Гальшаны размешчаны на прытоках. На самой жа рацэ знаходзяцца зона адпачынку Барок, Сакаўшчынскае вадасховішча. А ля Беразінскага і Палачан ажыццяўляецца распрацоўка торфу.

Даліна Бярэзіны ўтварылася больш ста тысяч гадоў таму, пасля сыходу Сожскага ледавіка. Ёсць меркаванне, што ўсю тэрыторыю паміж Гародзькамі, Гарадком і Хожавам тады займала вялікае ледніковае возера. У раёне сучаснай вёскі Гародзькі вада перапілася праз канцавыя марэнныя ўзгоркі і прарэзала сабе даліну да вёскі Сакаўшчына (Валожынскі раён). Такі ж цікавы феномен назіраецца і на прытоку Бярэзіны – рацэ Гальшанцы. Рэкі Гальшанка і Гаруджанка цякуць у супрацьлеглых накірунках, але займаюць адну даліну. Яна таксама ўтворана ў выніку спуску ледніковага возера.

Ледавік мае дачыненне да ўзнікнення яшчэ аднаго элемента басейна Бярэзіны. У тыя халодныя часы з яго дзьмулі пастаянныя моцныя і сухія сцёкавыя вятры (як у сучаснай Антарктыдзе). Ля вёскі Сакаўшчына да нашага часу можна бачыць вынікі яго працы. Там знаходзяцца паросля дзіўных старажытных дзюны. Для нашага рэгіёну такія формы рэльефа вельмі рэдкія.

Сакаўшчынскае вадасховішча – буйнейшае на Бярэзіне. Яно было створана ў 1937 годзе для энергетычных і рэкрэацыйных мэт. У 1955 годзе адноўлена. Працёчнасць вадасховішча даволі вялікая. Яно поўнасцю абнаўляецца кожныя 2,5 сутак. Вадаём моцна парос раслліннасцю і з'яўляецца добрым месцам для рыбы. Выкарыстоўваецца як зона адпачынку.

Рака Ісла – таксама прыток Бярэзіны. Гэта адна з нямногіх рэк Беларусі, дзе водзіцца ручаёвая стронга. А ў "Налібоцкім заказніку" – занесеная ў "Чырвоную кнігу" расліна, бузінны пальчатакарэннік. І яшчэ на дадзенай тэрыторыі можна назіраць цікавы і рэдкі для Беларусі тапанімічны выпадак: ёсць тут рэчка з падвоенай назвай. Прыток Бярэзіны, які пачынаецца як Гальшанка, заканчвае свой шлях ужо Альшанкай.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## «Папуасы» XXI стагоддзя

**РАДАШКАВІЧЫ. У апраўе сасновага бору шырокім люстэркам праменіць вадасховішча. Сюды, шукаючы паратунку ад спёкі, прыязджаюць штодзень сотні людзей. Прыемна паляжаць у цяньку пад шатамі дрэў, акунуцца ў водную прахалоду. А што пакідаюць турысты прыродзе ўзамен?**

Бруд, смецце, чорныя выпаліны ад кастрышчаў, у якіх гінуць, яшчэ не стаўшы дарослымі, бярозкі і елкі. Заклікаць да сумлення такіх людзей – пустая трата часу. У лепшым выпадку пачуеш у адказ: "Валі, пакуль цэлы!" Але ж нешта рабіць трэба, хай сабе не дзеля таго, каб адукаваць падобных "папуасаў", а каб зберагчы прыроду. Бо вадасховішча наша ўжо падобна на памыйнае вядро, у якім адначасова плаваюць кавалкі хлеба, кілбасы, агрызкі ад яблыкаў.

Машыны-легкавушкі стаяць пры самай вадзе – так іх зручней мыць. А побач купаюцца дзеці, іншыя адпачываючыя. І нічога не скажаш, стаянкі ж для аўтатранспарту няма, значыць, дзе хачу там і прыпаркоўваюся.

Пытанне акультурвання пляжаў я спрабаваў падняць не раз. Звяртаўся ў мясцовую жыллёва-камунальную гаспадарку, дзе выслухалі, але дапамогі не паабяцалі. Быў у лягсасе. Там таксама, як зазначыў ляснічы, свае цяжкасці. Людзі з раніцы да вечара працуюць і ў дадатак да ўсяго тушаць пажары, вінаўнікамі якіх з'яўляюцца ўсё тыя ж, хто адпачывае.

Старшыня Радашкавіцкага гарпасавета Сяргей Уласаў паабяцаў, што пытанне добраўпарадкавання пляжаў вакол вадасховішча будзе разглядаца на сесіі дэпутатаў, у час якой падумаюць і пра стаянкі для аўтамашын, і пра ларкі, у якіх можна купіць прахаладжальныя напоі, месцы для пераапранання і інш.

Сесія прайшла, прынята адпаведнае рашэнне, але да работ па добраўпарадкаванні пляжаў пакуль ніхто не прыступіў. Шкада, што такая карысная справа тармозіцца, бо "папуасы", адчуваючы, што гаспадара ў пляжаў няма, робяць сваю чорную справу, засыпаючы берагі вадасховішча бытавым смеццем, з якім камунальнай службе не заўсёды ўдаецца паспяхова змагацца.

**Сымон БЕЛЫ, пісьменнік, краязнаўца.**

# Асцярожна: клешч!

**Кожную вясну ў інфекцыяністаў пачынаецца гарачая пара. З наступленнем красавіка актывізуюцца далёкія сваякі павукоў – кляшчы. Гэтыя кузуркі 4 мм даўжынёй, а калі насмокчуцца крыві – 10-15 мм. Большасць жыве на сушы: у глебе, лясным подсціле, гнёздах птушак. У чаканні «гаспадара» могуць доўга галадаць. Дачакаўшыся, запаўзаюць на яго з зямлі ці раслін, знаходзяць прыдатнае для ўкусу месца і прысмоктваюцца. У адрозненне ад камара, могуць піць кроў некалькі дзён. Непрыемна адчуваць сябе ахвярай нейкага насякомага. Да таго ж яны могуць «падарыць» чалавеку, напрыклад, энцэфаліт ці хваробу Лайма. Прычым сам клешч не пакутуе ад транспарціроўкі хваробы.**

Энцэфаліт – захворванне галаўнога мозгу. Яго сімптомы – слабасць, галаўны боль, павышаная тэмпература цела, дрыжыкі. Могуць быць таксама парушэнні свядомасці, прыступы сутаргаў, ірвота.

Хвароба Лайма (барэліёз) праяўляецца інакш. На месцы ўкусу з'яўляецца чырвоная пляма гарачая навобмацак. Яна можа дасягаць 60 см у дыяметры. Адзначаюцца таксама ліхаманка, млоснасць, боль у мышцах і касцях. Часта яе прымаюць за артрыт, поліартрыт, радыкуліт. Захворванні суставаў могуць набываць хранічную форму. Барэліёз лечыцца 2-3 тыдні, калі дыягназ пастаўлены правільна. Можна справіцца і за 5 дзён, але давядзецца выкарыстоўваць вельмі моцныя антыбіётыкі.

Па звестках Маладзечанскага РЦГіЭ, за ўвесь 2002 год у медыцынскія ўстановы горада і раёна звярнуліся 57 чалавек, пакусаных кляшчамі. Сёлета па стане на 21.07.2003 такіх выпадкаў было ўжо 68. З іх 2 чалавекі – з Маладзечна, 49 – з Маладзечанскага раёна, 6 – з Мядзельскага, 4 – з Валожынскага, 3 – са Смаргонскага. Але толькі ў пяці выпадках клешч быў носьбітам барэліёзу. Дыягназ энцэфаліт пакуль што не пастаўлены нікому.

Калі вы знайшлі на сабе такога «смактуна», пастарайцеся выцягнуць яго, захаваўшы цэлым. У гэтых насякомых мышцы мацнейшыя, чым нашы (аднosна вагі цела), таму сілай вы нічога не даб'ецеся. Змажце месца ўкусу алеем ці тлустым крэмам. Клешч пачне задыхацца і выпаўзаць. Хапайце яго пінцэтам і даставайце вярчальнымі рухамі па гадзіннікавай стрэлцы. Усё ж лепш звярнуцца да хірурга ці інфекцыяніста. Спецыялісты пазбавяць вас ад крывасмока і накіруюць яго на даследаванне ў Мінск. Калі аналіз пацвердзіць наяўнасць узбуджальніка, трэба праз 10 дзён зрабіць аналіз крыві, які пакажа яго канцэнтрацыю. Толькі пасля гэтага можна назначаць лячэнне.

Каб пазбегнуць непрыемнай сустрэчы з кляшчамі, апранайцеся. Ідучы ў лес, варта замяніць тэніску і шорты на штаны і кашулю з доўгімі рукавамі. Адкрытыя ўчасткі цела змажце рэпелентам — сродкам, які моцна пахне і адпуджвае насякомых.

Праблема гэтая вельмі даўняя. Геолагам, якія працавалі ў 70-ыя гады ў Палессі, плацілі так званыя «энцэфалітныя». Сёння ў Мінскай вобласці 18 раёнаў з'яўляюцца небяспечнымі на насякомых – носьбітаў энцэфаліту і барэліёзу. Сярод іх Мядзельскі, Валожынскі, Маладзечанскі, Вілейскі, Мінскі. Кляшчы пагражаюць здароўю людзей да кастрычніка-лістапада, таму будзьце пільнымі.

**Святлана ЦІШКО.**

# Крым – не Рым, але яго славутыя

**З мноства вядомых курортных крымскіх гарадоў, якія заслугоўваюць увагі, пальма першынства па ўсеагульным прызнанні належыць Ялце.**

Хаця яе прываблівасць і шык не маюць лагічнага тлумачэння. На Чарнаморскім узбярэжжы шмат іншых не менш цудоўных мясцін, дзе можна папраўіць здароўе і цікава правесці час. Да атрымання ў 1838 годзе статусу павятовага горада, гэта была невялічкая рыбацкая вёсачка. А неўзабаве Ялта стала прэстыжным месцам для адпачынку арыстакратаў. Гэтаму ў многім спрыяла набыццё Арэанды і Лівадыі членамі царскай сям'і.

Тут пабывалі ўсе прыбліжаныя да імператарскай фаміліі, закручваліся нежартоўныя раманы. Пасля сустрэчы з 16-гадовай княжной Даўгарукай згубіў галаву нават Аляксандр II, чалавек строгай прыстойнасці, бацька вялікага сямейства. Імператару было 48 гадоў. Тайныя сустрэчы закаханых працягваліся ў Крыме ледзь не паўтара дзесяцігоддзя. І толькі пасля смерці імператрыцы цар змог павянчацца з Кацярынай Міхайлаўнай і афіцыйна прызнаць трох яе дзяцей...



Від на Ялту са спальнага корпуса турбазы «Кічкінэ».

**На Чарнаморскім узбярэжжы шмат цудоўных мясцін, дзе можна папраўіць здароўе і цікава правесці час. Да атрымання ў 1838 годзе статусу павятовага горада, Ялта была невялічкай рыбацкай вёсачкай.**

**Па меркаванні знаўцаў, найлепш пабываць у Ялце восенню, у «аксамітны сезон», калі тэмпература паветра і вады ў моры практычна аднолькавая — 25-27 градусаў. Гэты агульнавядомы выраз узнік якраз тут у пачатку ХХ стагоддзя. Горад пакідалі інжынеры, чыноўнікі, настаўнікі, а на змену ім прыязджалі мастакі і літаратары. Публіку, якая служыла, па адзенні называлі паркалёвай, а прадстаўнікоў свабодных прафесій — аксамітнай.**

**У ваколіцах «курортнай сталіцы» многа цудоўных мясцін: Паляна казак, вадаспад Учан-Су, Ай-Петры. З яе вяршыні — 1233 метры над узроўнем мора — відовішчна адкрываецца цэнтральная частка паўднёвага берага Крыма ад Аюдага да Сімеіза.**

## «Аксамітны сезон»

Па меркаванні знаўцаў, найлепш пабываць у Ялце восенню, у "аксамітны сезон", калі тэмпература паветра і вады ў моры практычна аднолькавая — 25-27 градусаў. Для цікаўных не лішнім будзе дадаць, што гэты агульнавядомы выраз узнік якраз тут у пачатку ХХ стагоддзя. Горад пакідалі інжынеры, чыноўнікі, настаўнікі, а на змену ім прыязджалі мастакі і літаратары. Публіку, якая служыла, па адзенні называлі паркалёвай, а прадстаўнікоў свабодных прафесій — аксамітнай.



Свята-Успенскі мужчынскі манастыр сярэднявечча ў скалах – адна з галоўных славутасцей Бахчысарая.



У такім вось экзатычным «хляве» манахі Свята-Успенскага мужчынскага манастыра ўтрымліваюць коз.

## Колькі каштуе Ялта?

Канечне, правесці паўнацэнны адпачынак у Ялце, дзе налічваецца каля ста тысяч жыхароў, – дарагавата, спакус навокал хапае. Адзін забаўляльны комплекс "Лета" на самым беразе мора шмат чаго варты! Калі не пашкадуеце 60 грыўняў, крыху больш за 11 долараў ЗША, можаце гадзінку выпрабоўваць сябе на трапнасць у боўлінгу. Гульня захаплівае, бо не так проста раз за разам збіваць шарам усе кеглі на сваёй дарожцы. Наколькі паспеў зразумець за час непрацяглай трэніроўкі, мала запусціць снарад вагой пад чатыры кілаграмы дакладна па цэнтры, яму неабходна яшчэ і надаць вярчальны рух. На другім паверсе комплексу — рэстаран "Гасконец". Ля акна, узяўшыся рукой за эфес шпагі, задумліва пазіраючы на мора, стаіць мушкецёр. І не адразу разумееш, што гэта ўсяго толькі па-майстэрску выкананая васковая фігура...

Агульнапрызнаны цэнтр Ялты — набярэжная, якая чымсьці нагадвае Неўскі праспект Санкт-Пецярбурга. На ёй заўсёды шмат народу. Людзі сустракаюцца, адпраўляюцца адсюль на экскурсіі па горадзе, у марскія прагулкі. Працуе мноства самых розных кіёскаў, гандлёвых палатак. Хапае і прапаноў наконт здачы кватэр "пад ключ" тым, хто адпачывае. У другой палове мая за трохпакаёўку прасілі 15 долараў за суткі. Зразумела, не выключаўся і гандаль. Хаця ў цэлым, як яно і павінна быць, кошт жылля на ўзбярэжжы вызначае попыт. Павышаецца ён — адразу ж растуць і цэны.

Побач з набярэжнай, абсаджанай пальмамі, позірк вабіць велічны будынак чатырохзорнавай гасцініцы "Арэанда". Насупраць — экзатычная шхуна "Эспаньёла". Гэты паруснік пабудавалі сорак восем год таму спецыяльна для кіназдымкаў, а цяпер карабель на "вечнай стаянцы". Ледзь ці не на кожным кроку — кафэ і атракцыёны, бары і рэстараны. У горадзе нямала санаторыяў, баз і дамоў адпачынку — імя Куйбышава, "Кіеў", "Севастопаль", "Арлінае гняздо"...

## «Горад Чэхава»

Ялту часам называюць "горадам Чэхава". Антон Паўлавіч правёў тут апошнія гады свайго жыцця, напісаў некалькі апавяданняў і п'есы "Тры сястры", "Вішнёвы сад". Тут жа пахаваны выдатны беларускі паэт, перакладчык і празаік Максім Багдановіч, які памёр у Ялце ў няпоўныя дваццаць пяць год.

## «Курортная сталіца»

Заслугоўваюць увагі і многія цудоўныя мясціны ў ваколіцах "курортнай сталіцы": Паляна казак, вадаспад Учан-Су, Ай-Петры. З яе вяршыні — 1233 метры над узроўнем мора — відовішчна адкрываецца цэнтральная частка паўднёвага берага Крыма ад Аюдага да Сімеіза. Падняцца на Ай-Петры можна па канатнай дарозе з ніжняй станцыі ў Місхоры, вядзе на вяршыню і турысцкая сцяжынка. Як сцвярджае адна са шматлікіх легенд, недзе ля яе падножжа б'е цудадзейная крынічка. Гід можа расказаць вам даўнюю гісторыю пра 90-гадовага старога, які выпадкова натрапіў на яе, напіўся вадзічкі і ператварыўся ў юнака. Яго 80-гадовая "спадарожніца жыцця" таксама захацела хутчэй памаладзець, без прамаруджвання накіравалася да крынічкі, ды праявіла бязмежную прагнасць да прыгажосці, выпіла вельмі шмат вады. Таму муж замест сваёй жонкі адшукаў ужо ноччу па дзіцячым плачы толькі ўхутаную ў лахманы старой маленькую дзяўчынку...

Ва ўсёй велічы Ялцінскі курорт раскрываецца ў час марской прагулкі на цеплаходзе ў бок "Ластаўчынага гнязда". Ад горада паркі і санаторыі ідуць амаль суцэльным шэрагам. Сярод іх вылучаецца колішняя летняя рэзідэнцыя апошняга расійскага імператара Мікалая II — шыкоўны Лівадзійскі Белы палац. У лютым 1945 года ў ім адбылася Крымская канферэнцыя кіраўнікоў трох дзяржаў — СССР, США і Вялікабрытаніі. На ёй не толькі вызначылі лёс Германіі, але і прынялі рашэнне аб стварэнні Арганізацыі аб'яднаных нацый. Па шляху вабяць позірк таксама корпусы санаторыяў "Ніжняя Арыанда", "Залаты пляж", турбазы "Кічкінэ", пансіяната "Дружба". Апошні мае надзвычай арыгінальную канструкцыю, якая нагадвае велізныя пчаліныя соты, што трымаюцца на трох апорных вежах ля самага прыбою.

Своеасаблівай эмблемай паўднёвага берага Крыма з'яўляецца замак "Ластаўчына гняздо". У 1927 годзе ён перажыў моцны землятрус, у мора абвалілася частка стромкай Аўрорынай скалы, на якой і ўзвялі ў свой час рамантычнае збудаванне для бакінскага нафтапрамыслоўца Шнейгеля. Не адно дзесяцігоддзе яно лічылася аварыйным, было закрыта і толькі пасля ўзнаўлення і ўмацавання гасціна расчыніла свае дзверы для ўсіх, хто жадае.

## Гераічны Севастопаль

Высвятляецца і адна цікавая заканамернасць: траплячы цяпер у Крым, вельмі многія замежныя турысты з Англіі, Францыі, Італіі, Германіі накіроўваюцца не ў Ялту альбо Судак, а ў Севастопаль. Найбольш іх прывабліваюць мясціны бітваў часоў Крымскай вайны. Гераічная абарона горада, якая працягвалася з 13 верасня 1854 па 28 жніўня 1855 года, прынесла яму сусветную вядомасць і славу. Побач з музеем Чарнаморскага флоту — царква святога Міхаіла Архангела, на яе сценах позірк прыцягваюць мармуровыя дошкі з пералікам часцей і злучэнняў, якія да апошняга не здавалі пазіцый непрыяцелю. Сярод іх — рускія і украінскія, беларускія і літоўскія палкі. На Малахавым кургане захаваліся ўмацаванні, масіўныя марскія гарматы.

Уражваюць таксама 1360-тонныя лінкораўскія башні, устаноўленыя ўжо ў ходзе фашысцкай асады. Яны вытрымліваюць прамое пападанне сярэдняй авіябомбы, але пры гэтым усяго чатыры чалавекі, налягаючы на спецыяльныя калаўроты, могуць варочаць знішчальныя ўстаноўкі на 360 градусаў. Заўсёды шмат наведвальнікаў і ля панарамы "Абарона Севастопаля 1854-1855 гг.", дыяграмы "Штурм Сапунгары 7 мая 1944 года". На жывапісным палатне ўнушальным памерам (25,5х5,5) адлюстраваны кульмінацыйны момант узяцця стромкага і заціжнога ўзвышша войскамі 51-й і Прымарской армій. Аб напружанасці баёў, мужнасці салдат і матросаў яскрава сведчыць наступны факт: за вызваленне Севастопаля ажно 240 (!) чалавек удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза.

# мясціны варта наведаць



Консульскі замак Судакскай цытадэлі.



Вытанчана выглядае на стромкавай скале царква Уваскрэсення Хрыстова. Узведзена ў 1892 годзе былым уладальнікам фароскага маёнтка купцом Кузняцовым у памяць аб выратаванні імператара Аляксандра III і яго сям'і пры крушэнні цягніка на шляху з Крыма.

**Павандраваўшы па вуліцах Севастопаля, пачынаеш разумець, што гэта і сапраўды самы багаты "музейны горад" Крыма, дзе можна прасачыць яго гісторыю ад часоў Херсанеса Таўрыйскага да нашых дзён.**

**На месцы антычнага грэчаскага горада, які ўзнік яшчэ ў канцы V стагоддзя на н.э. і быў знішчаны амаль праз дзве тысячы год золатаардынцамі, захаваліся магутныя крэпасныя сцены і вежы, рэшткі тэатра, вуліцы і кварталы з дварамі, калодзежамі, жылымі і грамадскімі будынкамі.**

**З мора горад-герой успрымаецца велічна і панарамна. Пры падыходзе да берага ўражваюць помнік затопленым караблям, прыморскі бульвар. Кожная бухта Севастопаля, вуліца, пагорак — гісторыя.**



Помнік затопленым караблям у Севастопалі.



У адным з падвалаў знакамітай «Масандры». Узрост він тут вылічаецца многімі дзесяткамі год, а іх кошт – сотнямі і тысячамі «зялёных».



Від на мора з мыса Плака.

Фота Алеся ЮР'ЕВА.

## 2500-гадовая Балаклава

Яшчэ не так даўно Крым небеспадстаўна называлі "непатапляльны авіяносец". Яго ваенную інфраструктуру распрацоўвалі лепшыя розумы чалавецтва, на яе не шкадавалі сродкаў. Вядомая справа – унікальныя ваенныя аб'екты былі строга засакрэчаны. Нямала іх і ў ваколіцах Севастопаля, горада воінскай славы, белых бесказырак, карабелаў і рыбакоў. Чаго толькі адна Балаклава каштуе! Цікава, што з мора гэты маляўнічы гарадок ля невялікай утульнай бухтачкі, схаванай паміж высокімі, заходзячымі адна за адну скалістымі гарамі, зусім нябачны.

На выпадак атамнай вайны тут у тоўшчы гары прабілі падобны на падкову тунэль, які вядзе з адкрытага мора ў бухту. Пры неабходнасці вада з канала адкачвалася, падводная лодка аказвалася ў сухім доку для абследавання і рамонту. Адначасова тунэль мог "прыняць" сем субмарын. На месцы дыслакацыі дывізіі падводных лодак мелася сховішча ядзерных боегаловак, склад гаруча-змазачных матэрыялаў. На самай вялікай у свеце падземнай базе субмарын маглі безвылазна знаходзіцца каля тысячы чалавек на працягу месяца. Тут жа размяшчаўся і запасны камандны пункт Чарнаморскага флоту.

Раней у Балаклаву было не трапіць, толькі строга па пропусках. Таму, хто не служыў на гэтай базе, заставалася задавольвацца творамі А. Пушкіна і А. Міцкевіча, В. Брусава і А. Купрына, якія ўславілі гэты цудоўны куточак, сінюю ваду ў бухце, старадаўнія вежы.

Цяпер зусім іншая справа. Больш таго, паміж гарадской адміністрацыяй і брытанскай кампаніяй "Exchange Direct PLC" падпісана пагадненне наконт ператварэння старажытнага пасялення, якому ўжо 2500 год, у турыстычны і рэкрацыйны цэнтр міжнароднага значэння. Калі больш канкрэтна, то англічане гатовы выдзеліць інвестыцыі на будаўніцтва стаянкі для яхт, гасцініцы, музея гісторыі Крымскай вайны, увекавечвання памяці сясцёр міласэрнасці Дашы Севастопальскай і Фларэнс Найцінгейл. Мабыць, іх, як шукальнікаў прыгод, вабяць сюды легенды аб незлічоных скарбах фрэгата "Чорны прынц", які пайшоў тут на дно мора ў 1854 годзе. Тады ж у Балаклаўскай бітве загінулі многія нашчадкі знатных людзей Вялікабрытаніі.

## Што рабіць у Севастопалі?

У Севастопалі можна без усялякіх праблем адправіцца з Графскай пристані на марскую прагулку, пагладзець у бухце на баявыя караблі Расійскага і Украінскага флатоў. Праўда, асобныя з іх выглядаюць занядбана. Узгадваецца трагічны лёс лінкора "Новарасійск", які ў 1955 годзе затануў за лічаныя хвіліны, і таму няшмат каму з экіпажа ўдалося выратавацца. Чаму ўзарваўся карабель? Гэта дакладна невядома і па сённяшні дзень. Адно з меркаванняў — лінкор замініравалі дыверсанты, другое — з "Новарасійска" кінулі якар, які трапіў якраз на міну...

Элегантна выглядаюць малы ракетны карабель з тытану, які можа ісці з хуткасцю да сямідзесяці вузлоў у гадзіну, а таксама "Ангара". У гады Вялікай Айчыннай вайны яна мела іншую назву — "Тая, што бяжыць па хвалях", з'яўлялася штабным караблём грос-мірала К.Дэніца. Пасля разгрому фашысцкай Германіі была перададзена на Чарнаморскі флот і стала ўрадавай. На "Ангары" ў свой час пабывалі Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў, дзе прымалі дзяржаўных дзеячаў розных краін.

З мора горад-герой успрымаецца больш велічна, панарамна. Пры падыходзе да берага ўражваюць знакаміты помнік затопленым караблям, прыморскі бульвар. Кожная бухта Севастопаля, вуліца, пагорак – гісторыя. Ён яшчэ адносна малады, 13 мая адзначыў сваё 220-годдзе. Аднак, бадай, лепшага месца, як раней казалі, для ваенна-патрыятычнага выхавання пакалення, якое падрастае, няма. І хаця час цяпер некалькі іншы, без гэтага немагчыма фарміраванне светапогляду юнакоў, сапраўдных абаронцаў сваёй краіны. Таму турыстычны патэнцыял горада вельмі высокі. Тым больш, што ён паступова становіцца любімым месцам экскурсантаў. Іх прымаюць і абслугоўваюць восем гатэляў, тры санаторыі-прафілакторыі, пайдзесятка пансіянатаў і столькі ж аздараўленчых комплексаў, пятнаццаць дзіцячых летнікаў, сорак адна база адпачынку, аўтакемпінгі...

## Самы багаты «музейны горад»

Павандраваўшы па вуліцах Севастопаля, пачынаеш разумець, што гэта і сапраўды самы багаты "музейны горад" Крыма, дзе можна прасачыць яго гісторыю ад часоў Херсанеса Таўрыйскага да нашых дзён. На месцы антычнага грэчаскага горада, які ўзнік яшчэ ў канцы V стагоддзя на н.э. і быў знішчаны амаль праз дзве тысячы год золатаардынцамі, захаваліся магутныя цытадэльныя сцены і вежы, рэшткі тэатра, вуліцы і кварталы з дварамі, калодзежамі, жылымі і грамадскімі будынкамі. Менавіта ў Херсанесе ў 988 годзе прыняў хрысціянства кіеўскі князь Уладзімір. На тым месцы — Уладзімірскі сабор з сямю крыжамі наверсе, адзін з якіх пазалочаны. Узвялі яго ў 1888 годзе, а два гады таму завяршылі першы этап рэканструкцыі святыні, скарыстаўшы на гэта больш за 35 мільёнаў грыўняў. А ўсяго ў Севастопалі налічваецца больш дзвюх тысяч гістарычных, культурна-мастацкіх, археалагічных і прыродных помнікаў.

У ваколіцах горада-героя не цураюцца і сельскагаспадарчай вытворчасці. З Сапунгары, як на далоні, бачны дагледжаныя вінаграднікі, за імі — вінзавод "Залатая балка". Ён славіцца сваім паўсухім і паўсалодкім шампанскім, чырвоным ігрыстым, мускатным, ігрыстым ружовым. На розных выстаўках, у тым ліку і міжнародных, гэтая прадукцыя толькі за пяць год адзначана 23 залатымі медалямі.

Канешне, каб добра пазнаёміцца з Севастопалем, яго славутасцямі, аднаго дня недастаткова. Нам пашчасціла тым, што групу ў ходзе прэс-тура суправаджала вялікая знаўца гэтых мясцін, умелы арганізатар і цудоўны расказчык Эльвіра Кізілава. Менавіта дзякуючы ёй, мы мелі магчымасць за кароткі час атрымаць максімум карыснай інфармацыі.

І сапраўды, сонечны і непаўторны Крым варты таго, каб прыязджаць сюды неадночы. Усе клопаты і нязручнасці, звязаныя з дарогай, з лішкам кампенсуюць самае сіняе ў свеце мора і райскія краявіды.

**Алесь ЮР'ЕЎ.**

# Правы без экзаменаў

**Сёлета прынялі новыя правілы дарожнага руху. У сувязі з гэтым я звярнуўся ў ДАІ з пытаннямі, якія найбольш цікавяць чытачоў. На іх адказвае Іван Карпец, начальнік МРЭА ДАІ г.Маладзечна.**

**— Як замяніць вадзіцельскае пасведчанне?**

— Тэрмін дзеяння пасведчання абмяжоўваецца 10 гадамі з дня атрымання, пасля чаго яно лічыцца несапраўдным і падлягае абмену. Замену праводзяць без экзамену пасля прадстаўлення наступных дакументаў:

– заява адпаведнай формы;

– вадзіцельскае пасведчанне;

– медыцынская даведка аб годнасці для кіравання адпаведнымі катэгорыямі транспартных сродкаў;

– вадзіцельская картка, а пры яе адсутнасці – пацвярджанне РЭА ДАІ аб атрыманні вадзіцельскага пасведчання;

– квіткі аб аплаце (9600 руб. за пасведчанне, 600 руб. за камп'ютарныя паслугі, 210 руб. за заяву);

– пашпарт ці іншае пасведчанне асобы.

**— Як здзяйсняецца вяртанне вадзіцельскіх пасведчанняў грамадзянам, якія страцілі права на кіраванне транспартнымі сродкамі?**

— Цяпер пасведчанні выдаюцца не ў РЭА, а ў ДАІ. Вяртаюць правы і талоны пасля падачы медыцынскай даведкі без здачы экзаменаў. Калі кіроўца не забірае пасведчанне ці талон, праз 2 гады іх знішчаюць.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Начальнік міжраённага рэгістрацыйна-экзаменацыйнага аддзялення дзяржаўтаінспекцыі Іван Карпец.**

**— Які парадак атрымання пасведчання-дубліката?**

— Пасля страты выдаецца талон да пасведчання, які дзейнічае на працягу аднаго месяца з дня выдачы. Па сканчэнні яго тэрміну дзеяння выдаецца новае пасведчанне без здачы экзаменаў з адметкай "дублікат". Каб атрымаць талон, патрэбна падрыхтаваць вышэйзгаданыя дакументы. Да іх трэба дадаць даведку з ДАІ аб тым, што вас не пазбаўлялі правоў. Талон запатрабуе той самай працэдуры. Пры неабходнасці іх могуць выдаць у месячны тэрмін па рашэнні кіраўніцтва ДАІ.

**— Як атрымаць пасведчанне трактарысту?**

— Асобы, якія могуць кіраваць трактарам, тралейбусам, трамваем, а таксама ў якіх стаж кіравання не меншы за адзін год, пры жаданні могуць атрымаць пасведчанне з катэгорыямі "А" і "В" без дадатковай падрыхтоўкі. У дадзеным выпадку прымаецца толькі практычны экзамен на патрэбную катэгорыю. З дакументаў неабходны наступныя:

– заява адпаведнай формы;

– пашпарт (для ваенныхкантрактнікаў — даведка па форме 5, для грамадзянскіх – даведка па форме 9, для ваенных тэрміновай службы – ваенны білет), пасведчанне на права жыхарства;

– фотаздымак 1 шт. (3,5/4,5);

– даведка з ДАІ аб тым, што вас не пазбаўлялі правоў;

– квіткі аб аплаце за пасведчанне, экзамены, камп'ютэрныя паслугі;

– ксеракопія пасведчання трактарыста і талона з арыгіналам;

– даведка медыцынскай камісіі;

– даведка з Дзяржнагляда аб пацвярджанні атрымання правоў трактарыста;

– выпіска з працоўнай кніжкі з арыгіналам;

– для індывідуальных уладальнікаў – тэхнічны пашпарт транспартнага сродку з пройдзеным тэхаглядам ці даверанасцю.

**— Як атрымаць пасведчанне матацыкліста з самастойнай падрыхтоўкай?**

— Цяпер ёсць магчымасць падрыхтавацца самастойна да здачы на катэгорыю "А" для тых, хто дасягнуў 16 год. Здаваць правілы і ваджэнне можна не больш за 3 разы, пасля пры адмоўным выніку будзе патрэбна аўтавучэбная падрыхтоўка. Можна атрымаць правы кіравання па катэгорыях "А", "В", "С" без дадатковага навучання, калі ёсць вышэйшая ці сярэдняя неспецыяльная адукацыя па аўтамабільнаму профілю. Для атрымання пасведчання будуць патрэбны копіі дыпломаў устаноў адукацыі і выпіскі з семестравых і экзаменацыйных ведамасцей.

Усе астатнія пытанні можна задаць па тэл. у Маладзечне 3-02-23 непасрэдна самому Івану Міхайлавічу Карпцу, а звесткі аб экзаменах – па тэл. у Маладзечне 6-04-03, 6-04-05.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

**■ КОНКУРС АЎТА-МОТА**

**Мінулы раз мы спыталіся, калі ўступілі ў дзеянне сучасныя правілы дарожнага руху. Правільны адказ гучыць так: 1 ліпеня 2003 года. Зноў нашым пераможцам стаў Анатоль Шпілеўскі з Маладзечна. Запрашаем пераможцу за прызам ад Першай акумулятарнай кампаніі у рэдакцыю "РГ" пасля 20-га жніўня (з адпачынку вернецца вядучы рубрыкі).**

## А цяпер новае заданне

У 1957 годзе выйшла пастанова ЦК КПСС і Саўміна СССР "Аб асваенні на Мінскім аўтамабільным заводзе новых аўтамабіляў". Да гэтага часу аўтатэхніка, якая выраблялася на прадпрыемстве больш за 10 год, маральна састарэла. Да таго ж з'явіўся больш магутны, чым на МАЗ-200, рухавік ЯМЗ-236. Будучыя вырабы атрымалі наступныя індэксы: грузавік МАЗ-500, самазвал МАЗ-503, цягач МАЗ-504. Навінкі ў вельмі многім не былі падобныя да сваіх папярэднікаў. Але самым галоўным адрозненнем з'яўлялася абсалютна новая рэвалюцыйная кампаноўка. Увага, пытанне: у чым заключалася рэвалюцыйнасць кампаноўкі элементаў і вузлоў сямейства МАЗ-500?

Сярод тых, хто правільна адкажа на пытанне, будзе разыграны прыз.

# Купі новы акумулятар

**Вось і прайшла палова 2003 года. Неўзабаве восень, а там – зіма. А гэта азначае, што акумулятарная тэма хутка стане актуальнай, а для некаторых аўтамабілістаў – вострай. Як бы тое ні было, без працаздольнай батарэі рухавік – усяго толькі груда нежывога металу. Але трэба ехаць, і калі ў адзін цудоўны марозны ранак акумулятар адмаўляецца круціць каленчаты вал, то, хутчэй за ўсё, паездку, хай сабе і неадкладную, прыйдзецца адтэрмінаваць і накіравацца на аўтарынак ці аўтамагазін за новай батарэяй.**

На што трэба звяртаць увагу і чым павінен кіравацца пакупнік акумулятара, каб потым не апынуцца "ля разбітага карыта"? Гэтае пытанне накіраванае Аляксандру В'югіну, менеджэру найбуйнейшага аператара акумулятарнага рынку СНД – "Першай Акумулятарнай Кампаніі" (ПАК).

– Мая парада – набываць акумулятары ў афіцыйных імпарцёраў, якія гарантуюць тэрмін службы не менш за той, які дае вытворца, азнаёміцца з гісторыяй прадпрыемства, фірменнымі каталогамі.

Другая парада – абавязкова атрымаць гарантыю прадаўца. Так, на акумулятары, якія прадаём мы, распаўсюджваецца сэрвісны пакет стандарта ПАК: гарантыйнае і пасляганантыйнае абслугоўванне, адзіны фірменны гарантыйны талон, адзіныя правілы выбракоўкі, адзіныя стандарты і падыходы да якасці абслугоўвання спажыўцоў. Усе акумулятары абароненыя спецыяльнай наклейкай "Першая Акумулятарная Кампанія". Пры гэтым гарантыйны тэрмін у залежнасці ад мадэлі – да 50 месяцаў. Сэрвісныя пункты або прадстаўнікі ПАК ёсць ва ўсіх больш–менш буйных гарадах Беларусі (у нашым рэгіёне ў Маладзечне, Смаргоні, Ашмянах а таксама ў Мінску). Прычым "свае" АКБ мы абслугоўваем незалежна ад месца іх продажу.

**— У асартыменце ПАК больш за дзесятак гандлёвых марак розных вытворцаў. Ці не вельмі многа для адной кампаніі?**

— Сёння пад маркай ПАК працуюць лепшыя дыстрыб'ютэры у Беларусі і Расіі. Гэта самая вялікая збытавая сетка на тэрыторыі СНД. Так што дзесяць гандлёвых марак – гэта не шмат, а, можна сказаць, дастаткова для задавальнення запытаў усіх аўтамабілістаў.

**— На чым заснаваны выбар асартыменту?**

— Асартымент падбіраўся для ўсіх катэгорый аўтамабілістаў на працягу некалькіх гадоў. Сёння ПАК працуе толькі з вытворцамі, прадукцыя якіх прайшла еўрапейскую сістэму сертыфікацыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі стандартаў ISO 9001/9002, DQS, VDA-6. У той самы час даводзіцца ўлічваць фінансавыя магчымасці асноўнай масы беларускіх аўтамабілістаў. Таму разам з элітнымі брэндамі VARTA, FIAMM, Hoppecke мы робім асноўны ўпор на прапанову больш даступных па кошце марак Centra, Mutlu, Topla, ZAP, Black Horse. Ямчэ прапануем простыя і ўсім здавён знаёмыя АКБ Саратаўскага, Падольскага, Курскага і Талды–Курганскага заводаў. Плюс, зразумела, прадмет асаблівага гонару нашай кампаніі акумулятары "Зубр Standart" і "Зубр Calcium" – першыя беларускія акумулятары, якія выпускаюцца пад кантролем канцэрна EXIDE з 2000 года на заводзе "Палескія акумулятары" ў Пінску. Гэта сумеснае прадпрыемства ПАК з польскім заводам Centra S.A. – еўрапейскім аддзяленнем амерыканскага канцэрна EXIDE Technologies Corporation. У вытворчасці "Зубраў" скарыстоўваецца ўсе камплектуючыя еўрапейскай вытворчасці, у тым ліку свінец высокай ачысткі, чым не могуць пахваліцца ні расійскія, ні ўкраінскія вытворцы.

**— Цяпер давайце пагаворым аб прапануемых вашай кампаніяй імпартных батарэях і іх вытворцах.**

— У першую чаргу адзначу прадукцыю нашага дзелавога партнёра – Centra S.A. У 1995 годзе гэты завод у Познані ўвайшоў у склад еўрапейскага холдынгу EXIDE German Group і праз некаторы час стаў іграць значную ролю на тэрыторыі Сярэдняй і Усходняй Еўропы. Завод выпускае да 3,5 млн. акумулятараў за год, з іх больш за 50% ідзе на экспарт у Еўропу і краіны СНД. Для параўнання, усе расійскія вытворцы разам выпускаюць каля 8 млн. акумулятараў у год. Элітная марка завода акумулятар Centra Calcium, якая заваявала у 2000–м годзе ў Еўропе званне "Лепшы акумулятар года" – гэта кальцыевая тэхналогія, высокая рэзервовая магутнасць, 12–месячны перапынак паміж зарадкамі, тэрмін службы да 7 год. Магу сказаць, што прыкладна 3 тыдні таму адзін жыхар Маладзечна прыехаў у афіцыйнае прадстаўніцтва ПАК у Маладзечне, каб купіць АКБ менавіта маркі Centra, бо прад'яўленая ім старая батарэя гэтай маркі (прычым самая простая мадыфікацыя), па словах пакупніка, праслужыла яму верай і праўдай 11 (!) год.

Ударная пазіцыя ПАК – прадукцыя лідэра акумулятарнага рынку Турцыі завода Mutlu. Прадпрыемства выпускае каля 4 млн. стартэрных батарэй за год. З іх каля паловы пастаўляецца ва Усходнюю і Заходнюю Еўропу, краіны Балтыі і СНД. Пры гэтым у Mutlu вельмі прымальная цана і тэрмін эксплуатацыі па водгуках – да 8 год. Гэту марку вельмі любяць "дальнабойшчыкі".

Вялікім поспехам у аўтамабілістаў карыстаецца славенская батарэя Topla, якая выраблялася на заводзе TAB, які размешчаны ў самым цэнтры буйнейшага на Балканах радовішча свінцу ў Меджыку. Якасць свінцу там гарантаваная, што дазваляе батарэям Topla карыстацца ўстойлівым попытам у знатакоў па ўсёй Еўропе.

Гэты завод выпускае таксама АКБ для верталётаў, танкаў, падводных лодак, вузлоў сувязі, цягавыя батарэі.

Добра зарэкамендавала сябе прадукцыя польскага завода ZAP Sznajder. Прадпрыемства вырабляе акумулятарныя батарэі з 1925 года. Ямчэ ў часы СЭУ акумулятары ZAP пастаўляліся ў СССР, прычым не толькі для аўтазаводаў, але і на абаронную прамысловасць. Таму ў выпадку з ZAP смела можна разлічваць на поўную адаптацыю да нашых кліматычных і эксплуатацыйных умоў. У маі гэтага года на міжнародным конкурсе акумулятар ZAP Calcium быў узнагароджаны залатым медалём "За новыя тэхнічныя рашэнні".

Вядомыя айчынным спажыўцу германскія акумулятары Varta і Hoppecke – гэта традыцыйная нямецкая якасць, якая мае больш чым стогадовую гісторыю.

Надзейны акумулятар Black Horse вырабляецца ў Югаславіі ў горадзе Сомбар па ліцэнзіі адной з вядучых фірм ЗША. У часы СССР Сомбар быў вядомы пад гандлёвымі маркамі TREPCA і SOMBOR. Калі хто памятае, то ў Савецкім Саюзе ў часы дэфіцыту купіць такую батарэю лічыў за удачу любы аўтааматар.

Італьянская марка акумулятарных батарэй FIAMM трывала звязаная з аўтамабільным спортам, знаёмая кожнаму прыхільніку "Формулы–1" і "Ферары". Дарэчы, вядомая ў нас марка Baren (Аўстрыя) выпускаецца па ліцэнзіі і пад кантролем FIAMM.

**— У якіх рэгіёнах можна набыць прадукцыю, якую прапануе "Першая Акумулятарная"?**

— Асобны накірунак у нашай рабоце – Расія. У Беларусі мы ахапілі большую тэрыторыю краіны. Афіцыйныя прадстаўнікі ПАК ёсць ва ўсіх абласных цэнтрах, а таксама ў шэрагу буйных гарадоў. Ідзе работа над пашырэннем гэтай сеткі, бо парк аўтамабіляў расце з кожным годам, а значыць, попыт на акумулятары будзе таксама расці. Аўтааматары нашага рэгіёну могуць звяртацца ў і спецыялізаваны магазін ПАК у Маладзечне па вул. Гарадоцкай, 104, тэл. 6–30–63, магазін "За рулём" па Вялікім Гасцінцы, а таксама ў магазіны "Трэк" і "Аўтамотавела" Смаргоні, "Аўтатрэк" у Ашмянах, да прадпрымальнікаў, якія прадстаўляюць інтарэсы ПАК на рынках. Усе кансультацыі бясплатныя.

Для тых аўтааматараў, якія сумняваюцца ў якасці тавараў на рынку, а таксама асцерагаюцца нарваца на падробку, мы пастаянна трымаем у продажы маторныя і трансмісійныя масла ТНК (Расія, Бельгія) і TEXACO (Швецыя). Асартымент поўны – ад мінералкі да 100%–й сінтэтыкі. Тут таксама можна бясплатна праверыць работу генератара і ланцугу зараду АКБ, правесці сэрвіснае абслугоўванне на працягу гарантыйнага тэрміну акумулятара, набытага ў Першай Акумулятарнай Кампаніі. Карыстаючыся выпадкам, запрашаю ўсіх наведаць філіял ПАК–Маладзечна на вуліцы Гарадоцкай, 104, дзе на працягу уніжня можна бясплатна праверыць работу генератара і стан АКБ. Трэба толькі папярэдне пазваніць па тэлефоне 63063.

# ВІНШАВАНКІ

**Валянціна Васільеўна**! Віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю: ад Бога — здароўя, ад сонца — цяпла, ад людзей — дабра. *Зоя Раманава.*

Віншуем з 40-годдзем **Клімовіч Алену Іванаўну**! Здароўя, дабрабыту! *Калектыў д/с №5 г. Вілейка.*

Віншуем **Жабцовых Вольгу і Дзяніса** з днём нараджэння. Жадаем веры, надзеі, здароўя, кахання. *Сям'я Барадзіных.*

Віншую сваю любімую бабульку **Сапач Марыю Іванаўну** з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, даўгалецця. *Кацярына.*

Віншую новую **сям'ю Батко** з в. Запалякі. Жадаю моцнага кахання, сямейнага даўгалецця, шмат дзетак. *Кацярына.*

Віншуем з днём нараджэння **Вансовіч Ірыну Мікалаеўну**! Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсіх справах. *Дочкі Света і Каця.*

Віншуем **Алену Міхайлаўну Брыль** з Плешчаніц з днём нараджэння. Жадаем здароўя, добрага настрою і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Муж, сын, дачка.*

Каханага мужа **Жабцова Дзяніса** віншую з днём нараджэння. Здароўя, кахання, поспеху. *Ад жонкі з каханнем.*

Самую прыгожую, пяшчотную і ласкавую дзяўчыну на свеце **Гвоздзь Святлану** віншую з хуткім заканчэннем працоўнага тыдня. *З каханнем, Руслан.*

Віншую **Каляровіча Віталія** з днём будаўніка. Жадаю ўсяго самага найлепшага. *Ананім.*

Хачу павіншаваць сваю сяброўку **Олю**. Ёй 12 гадоў. Жадаю моцнага здароўя. *Ад сябра Жэні.*

Віншуем з днём нараджэння любімую матулю **Дземеш Галіну**. Здароўя, поспеху, божай ласкі і апекі. *Дачка, зяць, унук.*

Віншуем **ксяндза Аляксандра** Вілейскага касцёла з днём нараджэння і днём Анёла. Шчыра жадаем моцнага здароўя, цярпення і бясконцага шчасця. Няхай добры Бог благаславіць Вашу душнастырскую працу, адорыць сваімі ласкамі, а Маці Міласэрная акрые плашчом мацярынскай апекі. *Удзячныя парафіяне Чарняўская Я., Козак Г.*

Віншуем з днём нараджэння **Ірыну Мікалаеўну Ваневіч** з Маладзечна! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у жыцці. *Палянскія, г. Вілейка.*

## Кінатэатр «Радзіма»

**8-10 жніўня. "Майстар пераўвасаблення"**, ЗША, фантастычная камедыя – у 17.00 і 21.00. **"Таксі-3"**, Францыя, камедыя – у 15.00 (акрамя 8 жніўня) і 19.00.
**11-17 жніўня. "Злаві мяне, калі зможаш"**, ЗША, крымінальная драма – у 18.40. **"Хлапечнік"**, ЗША, камедыя – у 15.00 (акрамя 11, 13, 15 жніўня), 17.00 і 21.00.
(Кожную сераду ільготныя білеты на сеанс у 17.00).
**Для дзяцей**
**9, 10 жніўня. "Трыстан і Ізольда"**, поўнаметражны мультфільм – у 13.00.
**12 жніўня. "Навічок"**, камедыя – у 11.00.
**14 жніўня. "Мулан"**, ЗША, поўнаметражны мультфільм – у 11.00.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

# ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына 175/37, разведзены, без ш/з, матэрыяльна забяспечан, пазнаёміцца з жанчынай да 40 гадоў. Маладзечна-6, 003234.

■ З НАШАГА АКНА

# Усе мы з хат

**Вокны рэдакцыі не выходзяць ні на цэнтральную плошчу горада, ні на бойкую вуліцу. Перад вачыма штодзень градкі (сярод якіх ёсць і наша) ды бетонная агароджа, якая, як падкова, атуляе двор шостай школы. Але і на гэтым "пятаку" кожны дзень нешта адбываецца. Учора, напрыклад, акурат насупраць нашага акна жанчына палола градку.**



Гародніна са сваёй грады самая смачная.

Узброіўшыся невялічкай, падобнай на відэлец, матыкай, яна цярпліва рыхліла прыбітую дажджом зямлю, пасля асцярожна выбірала травінкі і складвала ў невялікую кучку. У яе нетаропкіх рухах згадвалася стомленасць, і ў той жа час – акуратнасць. Кожную раслінку на сваім маленькім агародзе бабулька клапатліва асыпала зямлёй, раўняла пер'е прыбітай ліўневым дажджом цыбулькі.

Нягледзячы на ўвесь гэты клопат, градка выглядала не вельмі добра. Кволенькім было бацвінне буракоў, морквы, нават самасейка-кроп не парадаваў гаспадыню. Капялюшыкі яго падстаўлялі сонейку галоўкі дробненькія і танюткія. Жанчына, здавалася, усяго гэтага не заўважала. Сантыметр за сантыметрам апрацоўвала зямлю і, разагнуўшыся, з задавальненнем глядзела на вынікі работы.

Не ведаю, ці радаваў калі яе ўраджаямі гэты лапік зямлі наогул. Хутчэй за ўсё, атрымлівала асалоду ад самога працэсу работы. Хіба ж не задавальненне акунуцца пасля доўгай марознай зімы ў веснавыя клопаты, пакласці ў зямлю прырыхтаванае загадзя насенне, а пасля чакаць усходаў, назіраць, як тыя набіраюць сілу.

Яе ўнукам гэтага не зразумець: зрасліся з асфальтам, шматпавярхоўкамі. А вось людзі больш сталага веку, пражыўшы ў горадзе па 40-50 гадоў, так і не забылі пра свае карані, памятаюць, што ўсе яны з хат, і кожную вясну спяшаюцца на дачы, садзяць пад вокнамі шматпавярховак градкі. Як жа без цыбулькі, бурачка, радысачкі на салат? Хай сабе і невялічкіх, марных, затое сваіх.



У акно глядзела
Марына СЛІЖ.

■ КОНКУРС

# Мая Беларусь

**Сёння мы, як і абяцалі, падводзім вынікі 1-га тура конкурсу "Мая Беларусь".**

У ім прынялі ўдзел 39 чытачоў з розных гарадоў і вёсак рэгіёну. Найбольшую актыўнасць праявілі жыхары Маладзечна — 19 чалавек. Як аказалася, найбольш цяжкім пытаннем для нашых удзельнікаў было шостае, пра кінафільм «Узыходжанне». Тым не менш 22 чытачы правільна адказалі на ўсе пытанні віктарыны. Хутчэй за іншых свае дакладныя адказы даслалі Вадзім Сярпейка і Яўген Уласавец з Маладзечна, Юлія Шабан і Сяргей Грынцэвіч з Вілейкі, Ганна Ражко з Астраўца і Станіслаў Ярашэвіч з вёскі Варняты Астравецкага раёна. Хочацца таксама адзначыць нашых самых юных удзельнікаў — Насцю Крачкоўскую з Вілейкі і Яўгена Юркевіча з вёскі Ваўчкі Вілейскага раёна. Віншуем усіх пераможцаў першага тура і паведамляем, што наш конкурс працягваецца, а шанцы на канчатковую перамогу ёсць нават у тых, хто не даслаў адказаў на першы тур. Далучайцеся, калі ласка!

**Для ўдзелу ў другім туры віктарыны трэба адказаць на наступныя шэсць пытанняў:**

1. Згодна з беларускім павер'ем, гэты бог, які трымае ў адной руцэ лук, у другой — стрэлы, меў вялікую ўладу. Але час яго ўплыву быў абмежаваны: з першых да апошніх навальніц, а потым ён засынаў да наступнай вясны. Назавіце імя гэтага бога.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

2. Як вядома, 6 жніўня 1517 года Францыск Скарына выпусціў у свет першую друкаваную кнігу. У якім горадзе адбылася гэта падзея?

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

3. Расійская царыца Кацярына I нарадзілася ў Віцебскім павеце ў сям'і беднага прыгоннага селяніна Сямёна Скаўрона. Якое было яе сапраўднае імя, дадзенае бацькамі?

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

4. Доўгі час не было вядома, дзе ж размнажаецца гэтая рыба, якая сустракаецца ў шматлікіх вадаёмах Беларусі. Толькі на пачатку XX стагоддзя было вызначана, што месцам яе нерасту з'яўляецца Саргасава мора. Пра якую рыбу ідзе размова?

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

5. Заводы па вытворчасці гэтай прадукцыі працуюць у Скідалі, Жабінцы, Слуцку і Гарадзеі. Што вырабляюць на гэтых прадпрыемствах?

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

6. Вялікай папулярнасцю ў мінчан і гасцей сталіцы карыстаецца Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Якім спектаклем звычайна адкрываецца новы сезон гэтага тэатра?

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | |

Свае адказы запішыце ў купон, адзначыўшы таксама самае лепшае на вашу думку пытанне тура. Запоўнены купон (адказы прымаюцца толькі на купонах!) выражце і дашліце ў рэдакцыю на працягу 7 дзён, да наступнай пятніцы. На канверце пазначце: «Віктарына».

Паведамляем, што самым лепшым пытаннем першага тура прызнана чацвёртае, пра горад Ігумен. Яго адзначылі ў сваіх купонах 14 чалавек. Пачынаючы з другога тура, вы маеце магчымасць зарабіць дадатковы бал, калі ваша думка пры вызначэнні найлепшага пытання супадзе з думкай большасці ўдзельнікаў тура.

**Мікола ЛІПСКІ.**

**Віктарына «Мая Беларусь». Другі тур.**

1 ______________ 4 ______________
2 ______________ 5 ______________
3 ______________ 6 ______________
Самае лепшае на ваш погляд пытанне пад № ________

**Пра сябе**

Прозвішча ______________
Імя ________ Імя па бацьку ________
Дата нараджэння ______________
Адрас ______________
______________
Тэлефон ______________

**Купон 32** Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ КОНКУРС

## Збяры карцінку

Вітаю вас, шаноўныя чытачы! Самы час, каб даслаць нам карцінку, якую вы склалі з фрагментаў (глядзіце №23-31) з назвай ці з вершам пра яе. Вашы лісты прымаюцца да 10 жніўня. Чакаем!

## Зарабі білеты ў кіно

Дзякуй усім, хто не застаецца абыякавым да конкурсаў, што аб'яўляе газета.

Вельмі прыемна атрымліваць ад вас не толькі правільныя адказы, але і лісты, у якіх вы выказваеце свае адносіны да газеты. "*Карыстаючыся выпадкам, хачу сказаць рэдакцыі "РГ" шчыры дзякуй за дасканалую і поўную інфармацыю аб жыцці ў рэгіёне*", – піша А.Івашкевіч з Мядзела. "*Мая маці заўсёды купляе "Рэгіянальную газету", ёй падабаюцца навіны, розныя гісторыі. Я таксама чытаю "РГ". Шчыра люблю віншаванкі, гараскоп, экспрэс-апытанне, надвор'е, энцыклапедыю тэлетыдня. Мая малодшая сястра не цікавіцца ніякімі газетамі, але ёй вельмі спадабалася камедыя, на якую я, выйграўшы білет, яе запрасіла*", – зазначае Аляксандра Мілюціна з Маладзечна. "*Шмат часу не прымаў удзел у конкурсах "Рэгіянальнай", але цяпер, калі падпісаўся на газету на другое паўгодзе, вырашыў зноў паспрабаваць свае сілы*, – піша Андрэй Жэшка з Вілейскага раёна, – *тым больш, што яны ў вас не вельмі складаныя (пакуль што)*".

Дзякуй вам за такія лісты. Калектыў "РГ" робіць і будзе рабіць усё, каб інтарэс да нашай газеты не зніжаўся.

А цяпер правільны адказ на мінулае заданне: бацьку і маці па 36 гадоў. Дзеці: Марына, Ірына, Святлана – блізняты, ім 6 гадоў. На гэты раз паступіла 18 правільных адказаў. Віншую маладзечанцаў **Іосіфа Каросціка, Аню Балкоўскую, Ігара Сільвановіча, Вольгу Палівода, Юрыя Юхневіча**. Білеты ў кіно іх чакаюць у рэдакцыі да наступнай пятніцы.

Прапаную вам наступнае заданне: намалюйце гэтую фігуру, не адрываючы алоўка ад паперы і не вычэрчваючы адну і тую ж лінію.



Адказы дасылайце па пошце ці прынsocце да нас у рэдакцыю. Лісты з адказамі прымаюцца да аўторка (12 жніўня) уключна. На кон выстаўляецца 5 білетаў. Калі прэтэндэнтаў на перамогу будзе больш, уладальнікаў білетаў вызначыць жэрабя.



Чытачоў азадачвала
Аксана КУЛЕЎНІЧ.

